—Людзьмі звацца!
Янка Купала

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
12
ЛІПЕНЯ
1991 г.
№ 28 (3594)
ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.
КОШТ—15 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)

## ХОЦЬ У РЫНКУ І СВАЕ ЗАКОНЫ...

Гутарка з намеснікам міністра культуры Беларусі Уладзімірам РЫЛАТКАМ.

СТАРОНКІ 5, 12.

## СТАВІМ ПРАБЛЕМУ, ТВОРЫМ ПРАБЛЕМУ?..

Беларускі фальклорны тэатр — якім яму быць і ці быць яму.

СТАРОНКІ 10—11.

## «ВОЖЫКУ» — 50



Юбіляр — госць «ЛіМа».

СТАРОНКА 13.

## «МУРАЎЁЎШЧЫНА» І «МУРАЎЁЎЦЫ»

«Вызначальная дамінанта палітыкі царызму — знішчыць любыя нацыянальныя традыцыі. І калі палітычныя варункі былі спрыяльнымі, дык на першы план выходзіла грубая сіла. Але, як вядома, гвалтаўнік заўсёды шукае апраўданне сваіх дзеянняў, таму адначасова з гвалтам разгортваецца ідэалагічная кампанія з мэтай давесці справядлівасць рэпрэсій. Вось такая палітыка і ёсць класічная «мураўёўшчына». Няшчасце нашага народа ў тым, што найбольш актыўна і ўпарта праводзілася яна менавіта ў Беларусі».

СТАРОНКІ 14—15.

## ШУКАЦЬ СВОЙ ШЛЯХ

«Беларуская і ўкраінская грэка-каталіцкія цэрквы належаць розным плыням — беларуская заходняй, а ўкраінская ўсходняй, што абумоўліваецца гісторыяй народаў, іхнімі хрысціянскімі сувязямі. Таму кананічныя стасункі з Украінскай Кіева-Галіцкай уніяцкай мітраполіяй ставяць пад пытанне адраджэнне менавіта беларускага грэка-каталіцкага абраду».

СТАРОНКІ 14—15.

## ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ: МУЗЕЮ ТАРАШКЕВІЧА БЫЦЬ У РАДАШКОВІЧАХ



СТАРОНКА 16.



Ліпень, чарніцы...

Фота А. КЛЕШЧУКА.

# Кола Дзён

На мінулым тыдні стыхія нарабіла нямала бед на еўрапейскай тэрыторыі краіны. Успомнім хоць бы катастрафічную паводку ў Малдове.

І жыхары некаторых раёнаў Беларусі адчулі на сабе «капрызы» прыроды. Лівень з градам затапіў тысячы дамоў і сотні гектараў сельгасугоддзяў у Жыткавічах. Навальнічныя шквалы разбурылі некалькі будынкаў на Чэрыкаўшчыне і Мёршчыне. Паведамленні аб прыродных з'явах гучаць куды больш драматычна, чым інфармацыя аб грамадска-палітычным жыцці рэспублікі. Ды і падзей тут апошнім часам як быццам небагата. Але некаторыя факты, на першы погляд, не вельмі прыкметныя, падказваюць: трэба зважаць. Не выключана, што будзе аб'яўлена штармавое папярэджанне...

**4 ЛІПЕНЯ**

**на Белаўтамазе пабывала дэлегацыя бізнесменаў з ФРГ. Абмяркоўваліся перспектывы стварэння ў рэспубліцы сумеснага прадпрыемства, якое будзе выпускаць легкавыя аўтамабілі.**

**5 ЛІПЕНЯ**

**завяршыўся візіт на Беларусь дэлегацыі з рэспублікі Куба на чале з міністрам знешняга гандлю Р. Кабрысасам. Міністра прыняў Старшыня СМ БССР В. Кебіч. Размова ішла аб новых формах супрацоўніцтва ва ўмовах самастойнасці рэспублік, у прыватнасці, развіцці кааперацыі і бартэрнага гандлю.**

**6 ЛІПЕНЯ**

**ў ЦК КПБ адбылася нарада ініцыятараў рэгістрацыі Кампартыі Беларусі, на якой выступіў першы сакратар рэспубліканскай партарганізацыі А. Малафееў. Пасля нарады ініцыятары наведалі Дом-музей І з'езда РСДРП.**

**7 ЛІПЕНЯ**

**ў Мінску завяршылася выязное пасяджэнне міжнароднай няўрадавай грамадска-палітычнай арганізацыі Славянскі Сабор, для ўдзелу ў якой з'ехаліся з усяго Саюза і з Польшчы прадстаўнікі 96 патрыятычных арганізацый. У рабоце Думы Славянскага Сабора, для якой гасцінна расчыніў дзверы Грамадска-палітычны цэнтр (былы Цэнтр палітасветы), прыняў удзел сустрашыня Сабора, старшыня Польскай нацыянальнай партыі Б. Цяйкоўскі.**

**8 ЛІПЕНЯ**

**кіраўнікі 9 саюзных рэспублік сустрэліся ў Нова-Агарове з Прэзідэнтам СССР М. Гарбачовым і прэм'ер-міністрам В. Паўлавым, каб выпрацаваць агульны падыход да праблем, якія Прэзідэнт будзе ўзнімаць на сустрэчы ў Лондане з лідэрамі 7 найбольш развітых краін Захаду. У выніку дыскусіі галоўныя пазіцыі па гэтым пытанні былі ўзгоднены. У дыскусіі прымаў удзел Старшыня Вярхоўнага Савета БССР М. Дзямянцей.**

**9 ЛІПЕНЯ**

**ў Вярхоўным Савеце Беларусі адбылася сустрэча кіраўнікоў парламента і членаў беларускага ўрада з амерыканскімі прадпрымальнікамі і палітолагамі, якія прыехалі ў Мінск на 19-ю сустрэчу моладзі ў рамках савецка-амерыканскага дыялога «За мір і бяспеку». Першая канферэнцыя савецка-амерыканскай моладзі адбылася таксама ў Мінску, 19 гадоў назад. У праграме сёлетняй канферэнцыі — сумесныя заняткі і дыскусіі ў Інстытуце паліталогіі, сустрэчы з кіраўніцтвам партый і грамадскіх арганізацый рэспублікі.**

**10 ЛІПЕНЯ**

**перад пачаткам 5-га, нечарговага, З'езда народных дэпутатаў РСФСР, у Крамлі быў урачыста прыведзены да прысягі першы Прэзідэнт Расійскай Федэрацыі Б. Ельцын. Яго віталі патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Алексій II і Прэзідэнт СССР М. Гарбачоў.**

# Фактаў больш чым дастаткова

## Яшчэ раз пра Курапаты

**«ЛіМ» ужо даваў ацэнку публікацыям газеты «Мы и время», у якіх робіцца спроба даказаць, нібыта ва ўрочышчы Курапаты пад Мінскам масавыя расстрэлы праводзіліся не НКУС у 30-я гады, а гітлераўцамі ў час вайны. Весці спрэчкі вакол гэтай «сенсацыі» з выданнем, якое выходзіць пад дэвізам: «Сторонники коммунистического пути, объединяйтесь!», няма патрэбы. Аднак у № 6 (11) «Мы и время» надрукавана заява «общественной Комиссии по расследованию преступлений, совершенных в лесном массиве близ деревень Цна-Йодково — Зеленый Луг, ныне известном под названием «Куропаты», якая накіравана на імя Генеральнага пракурора СССР. І гэта змусіла нас задаць некалькі пытанняў пракурору Беларускай ССР — Георгію Сцяпанавічу ТАРНАЎСКАМУ. (Г. Тарнаўскі, разам з В. Собалевым і Я. Гарэлікам, з'яўляецца аўтарам вядомай кнігі «Курапаты: следства працягваецца»).**

**Наш карэспандэнт Віталь Тарас звязаўся з пракурорам рэспублікі.**

**— Георгій Сцяпанавіч! Ці звярталіся аўтары заявы ў рэспубліканскую пракуратуру з просьбай праверыць факты, што прыводзяцца ў «МиВ»?**

— Асабіста да мяне ніхто з такімі просьбамі не звяртаўся. Пра існаванне гэтай заявы я толькі што даведаўся ад вас. Але з ранейшымі публікацыямі «Мы и время» на тэму Курапатаў, зразумела, знаёмы... Ведаеце, ёсць жа звычайная этыка: перш чым ставіць пад сумненні вынікі следства, трэба сустрэцца з тымі, хто яго праводзіў, выслухаць іх для пачатку. Дарэчы, пракуратура рэспублікі і я асабіста адкрыты да супрацоўніцтва з журналістамі ўсіх выданняў. Аднак «Мы и время», відаць, замест супрацоўніцтва выбрала іншы шлях...

**— У заяве «грамадскай камісіі» напісана літаральна наступнае: «следователи Я. Боролишс, С. Ковриго, Н. Ничипоренко, А. Абадовский под руководством начальника следственной части В. Соболева предварительное следствие провели на крайне низком уровне и не смогли установить истины по делу...» Ваша ацэнка?**

— Адназначная. Следства праведзена на высокім прафесійным узроўні. І гэта не толькі маё меркаванне як пракурора. Ёсць жа яшчэ — нагадаю — заключэнне афіцыйнай урадавай камісіі. У яе ўваходзіў, у прыватнасці, старшыня Камітэта дзяржбяспекі БССР Э. Шыркоўскі (у той час ён быў намеснікам старшыні). Зазначу, што ў ходзе следства шырока выкарыстоўваліся архіўныя матэрыялы — у тым ліку КДБ. Захавалася шмат следчых спраў 30-х гадоў, на падставе якіх штампаваліся смяротныя прысуды «ворагам народа». Сабраных фактаў, паказанняў жывых сведкаў, здабытых рэчавых доказаў больш чым дастаткова, каб цвёрда сцвярджаць: масавыя расстрэлы ў Курапатах праводзіліся органамі НКУС.

І апошняе. Ніякага націску на пракуратуру ніхто не аказваў. Адкрыць крымінальную справу па факту злачынстваў было маім грамадзянскім і чалавечым абавязкам.

# АНДРЭЙ МРЫЙ, САМСОН САМАСУЙ І ІНШЫЯ...

Яно вядома: пачатак ліпеня — не лепшая пара для розных пасяджэнняў і вечароў, але ўсё ж чакалася, што зала Дома літаратара ў мінулую пятніцу будзе не такая пустая. Падзея тут адбывалася неардынарная: прэм'ера фільма па вядомых «Запісках Самсона Самасуя» (рэжысёр — У. Арлоў, аўтар сцэнарыя — У. Халіп).

З часу вяртання рамана да сучаснага чытача прайшло і няшмат часу («Запіскі...», як ведае дасведчаны чытач, былі апублікаваны ў першых двух нумарах часопіса «Полымя» за 1988 год). Тым не менш можна пэўна сказаць: без аўтара рамана Андрэя Мрыя немагчыма ва ўсёй паўнаце ўявіць беларускую літаратуру дваццатых гадоў. А ў дадатак і «Полымем», і «Маладосцю» вернуты і іншыя творы пісьменніка, у тым ліку ягоная публіцыстыка; нямала расказана пра трагічны лёс А. Мрыя і гэткі ж трагічны лёс яго роднага брата, таксама літаратара Васіля Шашалевіча (найперш дзякуючы С. Грахоўскаму). І вось яшчэ адно ўваходжанне ў свет персанажаў, якія сталі па сутнасці самім увасабленнем адміністрацыйна-каманднай сістэмы, — прэм'ера фільма.



Дырэктар Дома літаратара Віктар Лужкоўскі і галоўны рэдактар часопіса «Полымя» Сяргей Законнікаў з дочкамі Андрэя Мрыя.

Фота А. КАЛЯДЫ.

На прэм'еры прысутнічалі дзеці пісьменніка. Старэйшая дачка А. Мрыя Аксана Андрэеўна Рухіна, настаўніца па прафесіі, пенсіянерка. Другая дачка — Наталля Андрэеўна Прушынская — доктар філалагічных навук, спецыялізуецца па фінскай і нарвежскай літаратурах, працуе ў Акадэміі навук Карэліі. Пакручасты лёс у сына А. Мрыя Артура Андрэевіча, які па сённяшні дзень носіць пашпарт з прозвішчам Зыкаў. Справа ў тым, што пасля арышту бацькі яго ўсынавіў матчын брат. Да вайны хлопец жыў у Гомелі, пасля вайны скончыў Ленінградскі электрамеханічны інстытут. Прыйшоў на прэм'еру і сын Васіля Шашалевіча Генадзь.

Колькі слоў пра творчасць А. Мрыя і фільм па яго творы перад прэм'ерай сказалі намеснік старшыні Рады СП Беларусі У. Паўлаў, рэжысёр У. Арлоў, галоўны рэдактар часопіса «Полымя» С. Законнікаў.

Пасля пачаўся прагляд. На жаль, не абышлося без няўвязак, якія заўсёды сапсуюць свята. Чамусьці паказ фільма пачаўся з другой часткі (карыстаючыся тэрміналогіяй самога А. Мрыя,—з «другога скрутка»). Што тычыцца самога фільма, дык... Пасля яго паказу па тэлеэкране ў друку, вядома ж, з'явяцца рэцэнзіі, прытым, думаецца, будуць яны не адназначныя, бо ў фільме ёсць А. Мрый, ёсць Самсон Самасуй, а ёсць і тое, што прыцягнута з самымі «лепшымі» намерамі. Скажам, адзін з персанажаў гэтак задуменна чытае... «Политический собеседник». Міжволі падумалася: а што атрымаецца, напрыклад, з Львом Талстым, калі за чарговую экранізацыю, напрыклад, «Анны Карэнінай» возьмецца рэжысёр, якому не падабаецца часопіс «Наш современник» ці «Огонёк»?

Сумна... **А. М.**

# Невінаватыя мы, ён сам да нас прыйшоў

## Як «ЛіМ» спрабаваў спакусіць праravernага камуніста

Спосабаў помсты чалавецтва вынайшла шмат — ад прымітыўна-грубых да самых вытанчаных. «А вось штотыднёвік «Літаратура і мастацтва», які выдаецца пад надта мудрагелістай «шапкай» — «газета творчай інтэлігенцыі Беларусі»., «разлічыўся» са сваім аўтарам з густам Папандопула і мэтанакіраваным укусам скарпіёна...»

Аднак скарпіёнаў укус аказаўся не такі ўжо і мэтанакіраваны. Славамір Антановіч, «няўгодны» нам журналіст і памочнік першага сакратара ЦК КПБ, не толькі выжыў, але і выкрыў «ЛіМ» 4 ліпеня ў «Звяздзе» — у газеце, пры загалоўку якой пазначана немудрагелістае слова «орган».

Дзе ж мы далі маху, чаму правалілася карпатліва распрацаваная аперацыя? Нават сам С. Антановіч яе высока ацаніў: «Усё было дасканала прадумана». Але, відаць, не ўсё і не так дасканала, як хацелася б...

Задумваючы тэрарыстычны акт, выбіраючы ахвяру, мы найперш арыентаваліся на адзін прагал у прафесійнай падрыхтоўцы С. Антановіча. Калісьці хтосьці з настаўнікаў не сказаў яму, што цытаваны тэкст трэба браць у двукоссе. З гэтай прычыны на розных прыступках сваёй журналісцкай кар'еры ён пастаянна трапляў у досыць далікатнае становішча. Напрыклад, некаторыя мясціны артыкула С. Антановіча ў «Коммунисте Белоруссии» з Капыльскага раёна чамусьці слова ў слова маглі паўтараць карэспандэнцыю маскоўскай «Сельской жизни»... з Ліпецкай вобласці. У свой час навучыць калегу правілам пунктуацыі спрабаваў журналісцкі сход той самай «Звязды», дзе ён працаваў раней, але безвынікова.

Таму мы і «завабілі» С. Антановіча ў «ЛіМ». Больш таго, мы былі перакананыя, што ў прапанаваным артыкуле «Быць ідэйнасвядомымі!» гэткім адмысловым чынам будзе працытаваны не хто-небудзь, а менавіта У. Арлоў, з якім у нас існавала папярэдняя дамоўленасць. Спецыяльна дзеля гэтага перавезены намі з Наваполацка ў Мінск, ён абяцаў па першым сігнале выступіць з рэплікай.

Так яно і адбылося. Хто чытаў «ЛіМ» за 28 чэрвеня, ведае.

І раптам — такі правал!

Недаацанілі мы С. Антановіча. Тое, што недасведчаны чытач назаве звычайным плагіятам, аказалася палітычнай акцыяй з мэтай выкрыць «ЛіМ» як асяродак «антыкамуністычнай істэрыі», дзе «ўсё пранізана нянавісцю, злосцю, адрозніваецца беспрэцэдэнтнай нахабнасцю, дэфіцытам журналісцкай этыкі ў асвятленні дзейнасці «нялюбых» грамадска-палітычных рухаў». Звязаныя з Шэварднадзе змовай «расколоць партыю камуністаў», мы «бесцырымонна палошчам у брудзе тых, хто працуе ў партыйных органах».

Мяркуем, пасля гэтага С. Антановіч варты заахвочання. Ідэйна цнатлівы, пільны і начытаны, ён заслугоўвае быць не проста памочнікам, а першым памочнікам першага сакратара ЦК КПБ.

**ЛІМАВЕЦ.**

# Да якой пары?

## Роздум пра падзеі ў Югаславіі

...Зноў пралілася кроў, зноў — дачасна загубленыя чалавечыя жыцці... На гэты раз — у славянскай краіне, якая называецца Сацыялістычная Федэратыўная Рэспубліка Югаславія. Цэнтр у Бялградзе, які, здаецца, не так верыць у старыя ідэалагічныя догмы, колькі ўсё яшчэ па інерцыі кіруецца імі ў сваёй практычнай імперскай дзейнасці, пасылае войска ў Славенію і Харватыю, — рэспублікі, што асмеліліся абвясціць сваю нацыянальную і дзяржаўную незалежнасць. Канкрэтны повад можа быць які заўгодна, — аказваецца, вельмі важна, што напісана на пагранічных слупах (прыгадайце К. Пруткова: «Калі на клетцы слана...» і г. д.) А ў выніку—армія зноў страляе ў свой народ, зноў генералы і палкоўнікі ўсё вырашаюць самі, што для іх кошт хаця б аднаго чалавечага жыцця!

Здзіўляе нейкая незразумелая, так бы мовіць, звышаб'ектыўнасць, з якой наша шматфарбная прэса расказвае пра падзеі ў Югаславіі. А адна з цэнтральных маскоўскіх газет нават гэтак лагодненька ўшчувае югаслаўскае армейскае камандаванне: як жа так, паслалі пяхоту, а забыліся на падмацаванні, не было папярэдняй артылерыйскай падрыхтоўкі, авіяналёту і г. д. Чытайце: налёту і ўдару па Любляне, Марыборы, Крані і іншых славенскіх гарадах і населеных пунктах...

Вядома, нельга ўмешвацца ва ўнутраныя справы іншай дзяржавы. Але зразумець сутнасць і даць, урэшце, маральную ацэнку таму, што адбываецца, неабходна. Асабліва інтэлігенцыі. Асабліва сёння. Асабліва ў нас, на Беларусі, дзе яшчэ пануе глухата да многіх гістарычных прыкладаў, урокаў, аналогій. Да якой пары абвешчанае ва ўсіх дэкларацыях і канстытуцыях права народаў на самавызначэнне будзе заставацца толькі пустой гучнай фразай?

**Беларуская інтэлігенцыя не можа застацца абыякавай да ганебнай спробы задушыць самастойнасць і незалежнасць Рэспублікі Славенія, аб якой стольні стагоддзяў марыў яе горды народ. Мы паважаем яго старадаўнія духоўныя традыцыі, якія ідуць ад Брыжынскіх хронік, напісаных на славенскай мове ўжо на мяжы X—XI стагоддзяў, ад нацыянальна-адраджэнскай дзейнасці і творчасці П. Трубара, Ф. Прэшэрна, І. Цанкра і іншых да цудоўнай паэзіі, лепшыя ўзоры якой сабраны ў беларускіх перакладах Н. Гілевіча ў зборніку «Маці мая Славенія», да многіх сучасных выдатных творцаў, якія таксама гучаць сёння і па-беларуску, сярод якіх — Бена Зупанчыч, Тоне Паўчэк, Тоне Партліч, Драга Янчар і іншыя. Плённыя творчыя кантакты наладзіліся ў апошнія гады паміж калектывамі лялечных тэатраў Мінска і Любляны, балетных труп оперных тэатраў Беларусі і Славеніі, паміж тэатрам імя Я. Купалы і Славенскай нацыянальнай драмай. Плануецца новы абмен мастацкімі выставамі, пастаноўкамі, новыя ўзаемныя пераклады твораў паэзіі, прозы, драматургіі. Прынамсі, з боку Славеніі культурныя пагадненні выконваліся і выконваюцца заўсёды пунктуальна: урад двухмільённай па насельніцтве рэспублікі ЦАЛКАМ фінансуе ўсё кнігавыданне і выпуск усёй перыёдыкі на славенскай мове, усю тэатральную, канцэртную і асветніцкую дзейнасць, нават памагае славенскаму драматычнаму тэатру ў г. Трыесце ў Італіі, дзе жывуць славенцы... Хіба гэта не добры ўзор для пераймання і для вырашэння многіх нашых праблем?**

... Па радыё ўсё яшчэ перадаюць: трывожная напружанасць у Славеніі захоўваецца...

Народ, які аднадушна выказаўся за самастойнасць, ніколі ад яе не адмовіцца. Прычым славенцы не хочуць проста аддзялення, яны хочуць спачатку толькі раз'яднання, раз'яднання са структурамі, што даўно ўжо аджылі, каб потым аб'яднацца ў канфедэрацыю на зусім новай аснове. Але нават гэтага не хочуць разумець вернападданыя догме галовы і там, і ў нас.

У адным са сваіх вершаў выдатны славенскі паэт Тоне Паўчэк, той самы, які пераклаў на славенскую мову і выдаў томік Янкі Купалы, так сказаў ад імя яшчэ ненароджаных дзяцей:

**...хацелі б мы бегаць па<br>травах няходжаных,<br>лавіць матыльноў каляровае<br>шчасце,<br>хацелі б расці мы, як кветкі,<br>як дрэвы,<br>глядзець на аблокі і слухаць<br>напевы —<br>песні жыцця, нараджэння,<br>кахання<br>і толькі не смерці,<br>толькі не смерці!**

Добра было б, каб многія і ў цывільным адзенні, і ў вайсковым і ў нас, і ў Югаславіі пачулі гэту просьбу, гэты ўскрык, гэту надзею, каб не спакусіўся хто яшчэ паспрабаваць і ў іншым месцы паставіць гэты жахлівы апошніх дзён чэрвеня югаслаўскі сцэнарый.

**Ванкарэм НІКІФАРОВІЧ.**

# ЗРУЧНАЯ АХВЯРА?

У многіх на памяці падзеі 7 лістапада 1990 года ў Мінску, калі адбыліся шэсце-рэквіем і мітынг памяці ахвяр камуністычнай дыктатуры. Па факту «інцыдэнта» ля помніка Леніну Пракуратура БССР узбудзіла справу супраць Беларускага народнага фронту. Гучны палітычны працэс тады, як вядома, не атрымаўся. Вярхоўны Савет рэспублікі ў рэшце рэшт зняў гэтае пытанне з парадку дня.

Аднак неўзабаве ў якасці зручнай ахвяры быў выбраны супрацоўнік «Навінаў БНФ» Валерый Сядоў, якога абвінавацілі ў злосным хуліганстве. Праз 7 (!) месяцаў пасля мітынгу, у якім удзельнічаў Сядоў, яго арыштавалі і, нягледзячы на пратэст адваката, заключылі ў Мінскі следчы ізалятар.

З турмы В. Сядоў накіраваў ліст у пасольства ЗША. У ім апісаны жахлівыя ўмовы ўтрымання зняволеных і грубыя парушэнні правоў чалавека ў турме.

Гэты ліст трапіў да народных дэпутатаў БССР. Апазіцыя БНФ стварыла камісію ў складзе дэпутатаў Я. Новікава і З. Пазняка, якая, пасля шматлікіх перашкод, дамаглася дазволу на праверку ўтрымання арыштаваных у турме на Валадарскага.

Сустрэчы з вязнямі, у тым ліку непаўналетнімі, перакаиалі дэпутатаў у слушнасці ліста В. Сядова. З ім самім, аднак, кіраўніцтва рэспубліканскай пракуратуры сустрэцца дэпутатам не дазволіла. І на гэта, як высветлілася, у яго былі свае прычыны...

9 ліпеня, у той дзень, калі ў «Народнай газеце» было надрукавана, сярод іншага, заключэнне дэпутацкай камісіі аб парушэннях правоў падследных у турме, у рукі дэпутатаў трапіла заява В. Сядова, напісаная з-за кратаў. У ёй В. Сядоў паведаміў, што 14 чэрвеня г. г. ён аб'явіў галадоўку і прад'явіў наступныя патрабаванні: «1. Прызнанне маёй справы палітычнай і вылучэння супраць мяне адпаведных абвінавачванняў. 2. Змяненне меры абмежавання падпіскай». Праз два тыдні галадоўкі Сядоў быў змешчаны ў карцэр. Да яго, піша далей В. Сядоў, «з'явіўся нам. пракурора рэспублікі т. Кандрацьеў з дэлегацыяй і на працягу доўгага часу ўгаворваў спыніць галадоўку». Пры гэтым ён абяцаў, што ў панядзелак (1 ліпеня) мера абмежавання будзе зменена і В. Сядова выпусцяць. Заява аб спыненні галадоўкі была напісана. Але вязень, як ён піша, быў падмануты, у аўторак галадоўку ён аднавіў. На сённяшні дзень стан здароўя В. Сядова рэзка пагоршыўся, прымаць медыцынскую дапамогу ён адмаўляецца.

Копію заявы В. Сядова перадаў у нашу рэдакцыю народны дэпутат БССР З. Пазняк. Ад сябе ён дадаў: «Шмат хто задае рытарычнае пытанне — чаму маўчалі ў часы сталіншчыны? Вось вам прыклад сталіншчыны. Што скажа на гэта беларуская інтэлігенцыя, урачы, юрысты?»

# «ПАГАНСТВА-91»

Праз газету «Добры вечар» паэт Сяржук Сокалаў-Воюш кінуў кліч: «Усе ў вандроўку «Паганства-91»!» І вось 30 чэрвеня мы рушылі ад станцыі «Падсвілле» праз вёскі Кішы, Перадолы, Перавоз да ракі Шоша. Ішлі ўначы, калі спадала спякота. Мінулі Вострава, спыніліся на незвычайна прыгожым возеры Шо, назва якога захавалася, мабыць, яшчэ з незапамятнага часу. 4 ліпеня разбілі лагер ля самага глыбокага на Беларусі возера Доўгага, шлях да якога нам асвятлялі сваім казачным ззяннем светлячкі. Магутны дуб сярод луга ўкрываў нас сваёю лістотай, вогнішча кідала на твары чырвоныя водбліскі, задумліва-працяжна ў прасторы лілася песня, і толькі, калі асвятліўся небасхіл ды пачалі прачынацца птушкі, уклаліся мы спаць. Было нас чалавек трыццаць з Мінска, Наваполацка, Віцебска, Вільні і нават адна дзяўчына (траюрадная сястра Данчына)— з Ленінграда. У самой вандроўцы ўдзельнічала значна болей людзей, але не ўсе маглі адлучыцца на шэсць дзён, таму нехта пакідаў нас, а нехта прыходзіў. 6 ліпеня а другой гадзіне прыйшлі да возера Сердава. Паставілі намёты. Апоўдні да нас далучыліся яшчэ чалавек сорак, усе пачалі рыхтавацца да Купалля. Узвіўся бел-чырвона-белы сцяг, харугвы з купальскім знакам ды белым буслам на сіняй тканіне; зрабілі пудзіла ведзьмы, кола з крыжам упрыгожылі вянком з зязюльчыных слёзак і стужкамі, — яно высока ўзнялося над вогнішчам. Дзяўчаты ў строях ды вянках абралі Ганну Бартуль, якая прыехала на Купалле з Нью-Йорка, Купалінкай, павадзілі вакол яе карагоды і з песняй «Ішла Купалка сялом, закрыўшы вочы вянком», павялі яе да Купаліша, якім абралі Сержука Сокалава-Воюша — Князь-Купаліш запаліў паходню і перадаў яе Купалінцы, тая падпаліла вогнішча. Іскры ад хвоі як зоры зазіхацелі ў цемры. Цішыню наваколля парушыла песня «Ой рана, рана на Яна зямля дрыжала з Купала». Закружыўся карагод, пайшлі гульні, скокі. Не абышлося без прыгод, бо нячысцікі скралі Купалінку. Князь раздаў паходні хлопцам і першы кінуўся ратаваць яе. Зноў закруціўся карагод, хлопцы гойдалі дзяўчат на арэлях, замацаваных на хваіне. Потым парамі пайшлі шукаць папараць-кветку.

Ачысціўшыся агнём, зёлкамі, знайшоўшы, каму пашэнціла, сваю папараць-кветку, на досвітку, скінуўшы строі, уваишлі ў ваду, многіх пазацягвалі ў возера, як былі, у вопратцы. Ніхто не крыўдзіўся. Смех ды вясёлы гоман каціўся па соннай вадзе.

Вось так паганцы, як і спакон веку, сабраліся разам, каб уславіць у купальскую ноч яснае сонейка, што нясе нам цяпло, аддзячыць роднай зямліцы, што корміць і поіць нас.

**Валянціна ЯКІМОВІЧ.**



Фота У. САПАЧОВА.

> Паважаная рэдакцыя! Прашу надрукаваць гэты верш у бягучым нумары газеты.
>
> Пятро ПРЫХОДЗЬКА.

# ПРЫХІЛЬНІКАМ КУЛЬТАЎ

«Кіраўнікі руху «Сталін» рыхтуюцца да ўдзелу ў прызначанай на 13—14 ліпеня ў Мінску ўсесаюзнай канферэнцыі прыхільнікаў бальшавіцкай платформы КПСС».

(З газеты «7 дней»)

**Чые вы ўносіце імёны,<br>Каго ўслаўляць прыйшлі сюды<br>У край, дзе спасціг людзей<br>мільёны<br>Боль ад чарнобыльскай бяды!**

**Ці ж мала слёз было на свеце,<br>Ці ж вам балюча не было,<br>Што бой «За Сталіна»<br>вядзеце —<br>Таго, што ўсім прыносіў зло!**

**Ад смертаноснай чорнай сталі<br>Далоў ляцела шмат галоў.<br>Даўно закрэсліў слова Сталін<br>Я між усіх звычайных слоў.**

**Паслухайце, што сам гаворыць<br>Народ, спазнаўшы горкі лёс:<br>«Не хочам больш купацца ў<br>моры<br>Крыві, што Сталін людзям нёс!»**

**Хацеў паставіць на калені<br>Ён нас усіх перад сабой.<br>Не з вамі разам пакаленні<br>За праўду будуць весці бой...**

8 ліпеня 1991 г.

# Купалле, Купала, жыццё...

У Купалавай Вязынцы прайшло паэтычнае свята. Няхай яно было не такое люднае, як пад час «круглых» угодкаў народнага песняра, але, як заўсёды, радаснае, шчодрае на ўсмешкі, шчырыя пачуцці.

Тое, што дзень праўядзення яго супаў з Купаллем — адным з самых старадаўніх звычаяў народа, у пэўнай ступені сімвалічна. Купалле, Купала, жыццё... Якім бы складаным ні быў наш побыт, якія б супярэчлівыя працэсы ні адбываліся ў жыцці грамадства, але калі вяртаешся да вытокаў, калі сэрца напаўняецца самой паэзіяй, дык міжволі забываецца прыкрае, а застаецца прыгожае і вечнае.

Вёў паэтычны рэй у час свята намеснік старшыні Рады Саюза пісьменнікаў Беларусі У. Паўлаў. Чыталі вершы В. Куртаніч, Л. Рублеўская, Я. Міклашэўскі, Г. Пашкоў, П. Пруднікаў, В. Шніп. Выступала госця з Беластока М. Лукша.

●

У Мінску Купалле святкавалі тысячы людзей у ноч з 6 на 7 ліпеня ля Камсамольскага возера, Чыжоўскага вадасховішча. У суботу ж ля помніка песняру ў цэнтры сталіцы рэспублікі сабраліся прыхільнікі таленту Я. Купалы. Пра неўміручасць яго творчасці гаварылі пляменніца Івана Дамінікавіча Я. Раманоўская, М. Мушынскі, П. Пруднікаў, намеснік старшыні Рады Саюза пісьменнікаў Беларусі А. Пісьмянкоў і іншыя.

У выступленнях падкрэслівалася, што Купалава слова, як ніколі раней, нам патрэбна сёння, калі працэсы нацыянальнага абуджэння і адраджэння набываюць усё большы размах, а выхаванне на лепшых узорах мастацкага слова — гэта і далучэнне да невычэрпных крыніц духоўнасці, вяртанне да таго вечнага, што ва ўсе часы рабіла чалавека чалавекам.

**НАШ КАР.**



# ХОЦЬ У РЫНКУ І СВАЕ ЗАКОНЫ...

## Намеснік міністра культуры БССР У. РЫЛАТКА адказвае на пытанні карэспандэнта «ЛіМа»

**— Зразумела, што актуальныя праблемы мастацкага жыцця, новыя працэсы ў нашай культуры даюць людзям неабыякавым спажыву для разваг. У той жа час з'яўляецца і патрэба пачуць меркаванні зацікаўленага кампетэнтнага суразмоўцы. Уладзімір Пятровіч, нагода для вашага сённяшняга інтэрв'ю «ЛіМу» надзвычайная: у рэспубліцы прыняты Закон аб культуры. Як бы вы пракаменціравалі гэту падзею! Калі, у чым, пры якіх умовах выявяцца канкрэтныя вынікі дзеяння Закона!..**

— Закон аб культуры ў Беларускай ССР — свайго роду дэкларацыя права культуры ў жыцці грамадства. Гэта сведчанне адзінства пазіцыі парламентарыяў у тым, што суверэнітэт рэспублікі немагчымы без захавання і развіцця самабытнага культурнага асяроддзя, якое яднае жыццё колішніх, цяперашніх ды будучых пакаленняў. У цывілізаваных краінах заканадаўства аб культуры з'яўляецца прававой асновай грамадскай ды дзяржаўнай падтрымкі гуманізацыі жыцця. Напрыклад, у Японіі з 1985 г. існуе ганаровае званне «Чалавек—нацыянальны скарб», якое надаецца выдатным дзеячам традыцыйнага мастацтва. Феномен магутнага культурнага ўзыходжання Японіі шмат у чым вызначаны асабліва ашчадлівым стаўленнем да традыцыйнага мастацтва і актыўнай інтэграцыяй у сусветны культурны працэс. Наш закон замацоўвае гэтыя дзве тэндэнцыі, што ўзбагачаюць адна адну, як асноўныя прынцыпы дзяржаўнай культурнай палітыкі.

Закон вызначае асноўныя прынцыпы стасункаў мастака, устаноў культуры, дзяржавы, органаў мясцовага самакіравання ў грамадстве. Для практычных дачыненняў Закона з пэўнымі відамі духоўнай дзейнасці трэба прыняць яшчэ шэраг заканадаўчых актаў. Непераадольных цяжкасцей у выкананні Закона аб культуры, на мой погляд, няма, бо ён жа дапамагае станаўленню цывілізаванага жыцця. Галоўнае (каб было страшна яго не выконваць!) — прадугледзець строгія меры адказнасці за закрыццё бібліятэкі, знос помніка, нядбайнае стаўленне да традыцыйнага мастацтва, за маральнае ды духоўнае разбэшчванне падрастаючага пакалення. А гэта вялікая заканатворчая праца. Затое тады дзеянне Закона будзе адчувальнае, хоць бы ў той частцы, дзе Закон кажа «не». Там, дзе Закон кажа «так» і дэкларуе прыярытэты, уключаецца механізм дзяржаўнай палітыкі, грамадскія інстытуты, што маюць адносіны да культуры. Прыклад? Калі ласка. На апошняй калегіі Міністэрства культуры прынята распрацоўка асноўных напрамкаў беларусізацыі дзейнасці ўстаноў культуры і мастацтва. Пад гэтую праграму — а яна ўключае пераклад Гродзенскага тэатра лялек на беларускую мову, стварэнне шэрагу спектакляў, канцэртных праграм, дадатковую дапамогу бібліятэкам у набыцці беларускіх выданняў, выпуск пласцінак, пашырэнне сувязяў з беларускай дыяспарай, выданне падручнікаў і інш. — выдзелены сродкі, атрыманы заяўкі калектываў. Такім чынам два радкі Закона змогуць увасобіцца ў рэальнай справе.

На фоне агульнага страху перад рыначнымі адносінамі ўзнікла меркаванне, што Закон прадугледжвае антырыначны механізм. Гэта недакладна. Падаткавыя льготы, выдзяленне 3-х працэнтаў з дзяржбюджэту рэспублікі на культуру даюць шанц без вялікіх страт усім, хто стварае духоўныя каштоўнасці, асвоіць рыначны механізм ды прылучыцца да яго. Іменна рынак дазволіць пазбавіцца статыстычнага стаўлення да культурнага развіцця, «валавой арыфметыкі» ў мастацтве, фармалізацыі ды уніфікацыі культурнай прапановы. Для нас моц рынку ў тым, што ўсе культурныя працэсы павінны быць апладнены інтарэсам асобы, чалавека — спажыўца духоўных каштоўнасцей. Адна справа, калі тэатр лічыць галоўнай задачай знайсці ўпаўнаважанага адміністратара, які спрытна збывае білеты прафкому, іншая — калі па білеты на спектакль глядач прыйдзе сам, у тэатральную касу. А гэта магчыма, калі ёсць грамадскі прэстыж, адпаведная якасць рэжысуры, акцёрскага майстэрства, рэклама, свая аўдыторыя. Але перайсці ў рыначную сістэму, спавядаючы сапраўдную духоўнасць, ой як няпроста. Вось для гэтага і прадугледжана гарантаваная дзяржаўная падтрымка.

**— Абяцаныя «тры працэнты на культуру» — гэта хоць і маленькае, але прынцыповае дасягненне. Вось толькі ці не ўзнікне блытаніна: што лічыць затратамі на культуру? Адзін спрактыкаваны фінансіст давodзіў — з фактамі! — дзеячу мастацтваў, што культура ўжо даўно «з'ядае» нават больш як тры працэнты — усе 5, а то і 8. Вас не насцярожвае такая пазіцыя?**

— Канечне, ваша пытанне пацэліла ў слабае месца Закона. Само паняцце сферы культуры ў Законе не вызначана. І ў гэтыя 3 працэнты можна ўключыць увесь друк, утрыманне архіваў, тэлебачання і радыё — урэшце ўсё, што звязана з духоўным жыццём грамадства і фінансуецца дзяржавай. І ад гэткіх маніпуляцый Закон не абаронены. Ва ўсіх, хто яго рыхтаваў, абмяркоўваў, прымаў, спрацоўвала ведамаснае мысленне, і 3 працэнты разумеліся як фінансаванне ўстаноў, арганізацый сістэмы Міністэрства культуры рэспублікі. Але Мінфін БССР актыўна ўдзельнічаў у распрацоўцы Закона і разумее яго змест, мне здаецца, менавіта гэтак.

Нядаўна, пад час абмеркавання дагавору аб культурным супрацоўніцтве, была ў мяне размова пра лёс музычнага мастацтва з маім украінскім калегам. Яго непакоіла, што вялікія ўкраінскія калектывы перасталі гастраляваць, што ў Расіі закрываюцца філармоніі, аркестры, што памеры датацыі на філарманічную дзейнасць аказаліся за мяжой «пражыткова мінімуму» для яе. У нас жа ў рэспубліцы дадатковыя дзяржаўныя субсідыі дазволілі сёлета затармазіць такія дэструктыўныя працэсы. Закон дазваляе больш аптымістычна глядзець і ў 1992 год. Ён з'явіўся не проста своечасова, а, я сказаў бы, у апошнюю хвіліну, бо ў мастацтве страта любой таленавітай з'явы не кампенсуецца нічым.

**— Будзем спадзявацца, што дзякуючы Закону зрушыцца з нулявой адзнакі справа выратавання ды развіцця музычнай культуры і мастацтва. «ЛіМ» невыпадкова надае іменна гэтай сферы асаблівую ўвагу: навукай, усім чалавечым вопытам даказана, што музычная адукаванасць і дасведчанасць грамадства як нішто іншае ўплывае на яго духоўнае здароўе, на яго культуру ў агульным, самым шырокім сэнсе. Як вы, Уладзімір Пятровіч, памятаеце, у «ЛіМе» прайшла серыя публікацый, выкліканых чытацкім допісам (№№ 17, 31, 33, 47, 49 за 90 г. і № 8 за 91 г.), аўтары якіх разважалі пра самыя розныя аспекты музычнага выхавання. Цікава ведаць і вашы думкі наконт праблем, закранутых удзельнікамі той своеасаблівай дыскусіі.**

— Дыскусія пра лёс музычнай культуры пры ўсёй разнастайнасці ўзроўняў кампетэнцыі аўтараў акрэсліла сённяшнія ды будучыя праблемы. Не хацелася б толькі разважаць пра іх з лёгкасцю.

Роля музыкі ў жыцці чалавека, у ягоным успрыманні свету, у рэшце рэшт, у развіцці творчага мыслення, фарміраванні эстэтычнага густу сапраўды надзвычай важная. Невыпадкова гісторыя чалавецтва, яго першыя крокі да пазнання і ўдасканалення звязаны з музыкай. Невыпадкова тая духоўная няразвітасць нашай моладзі, што дасягае сёння ўжо крытычнай кропкі, звязана ў пэўнай ступені з адсутнасцю пераканальнай сістэмы эстэтычнага выхавання, у тым ліку і музычнага. Магчымасць для 2-х працэнтаў дзяцей наведваць музычныя школы не можа адчувальна паўплываць на працэс духоўнага аздараўлення грамадства. Тым больш, што ў дзейнасці ДМШ ёсць сур'ёзныя супярэчнасці. Іх вучэбныя праграмы разлічаны на тых дзяцей, што хочуць паглыблена вывучаць музычныя інструменты — у гэтым і функцыя музычных школ. А вось агульнае музычна-эстэтычнае выхаванне, цесна звязанае са спасціжэннем духоўных традыцый свайго народа, павінна весціся ў агульнаадукацыйных школах **для ўсіх без выключэння** дзяцей і забяспечыць даступны грамадству ўзровень мастацкага выхавання.

Вырашыць за кошт развіцця сеткі ДМШ задачы музычна-эстэтычнага выхавання? Гэта ідэя досыць дорага каштуе і ў рэшце рэшт асуджана на правал. Музычных школ мае быць **дастаткова,** але не больш за тое. Лёс культурнай палітыкі ў галіне эстэтычнага выхавання дзяцей вырашаецца толькі ў агульнаадукацыйнай школе! Туды неабходна скіраваць і сродкі, і грамадскі клопат пра выхаванне паўнацэннага пакалення. Школы з мастацкім ухілам у нейкай ступені праваобраз агульнай сістэмы школьнага навучання ды выхавання. Але, як гавораць англічане, працяг вартасці робіцца недахопам. Школа не павінна адхіляцца ад свайго агульнаадукацыйнага прызначэння, наладжваючы спецыяльныя наборы, рыхтуючы спецыялістаў у галіне мастацтва. Усе павінны займацца сваёй справай прафесійна. Але і догмаў ва ўпарадкаванні функцый школы не павінна быць. Вось, напрыклад, на Брэстчыне, на сяле, нарадзілася цікавая ініцыятыва, стварэнне «народных школ», дзе сіламі народных майстроў вядзецца студыйнае навучанне дзяцей мастацкай творчасці. Такое навучанне можа быць і ў агульнаадукацыйных школах, і ў клубах. У аналагічнай форме могуць развівацца музычныя, харэаграфічныя студыі там, дзе ёсць захопленыя і дасведчаныя людзі, якія разумеюць, што зарука захавання нацыянальных традыцый — выхаванне падрастаючага пакалення.

**— Уладзімір Пятровіч, музычным выхаваннем наканавана займацца і філармоніі. Ці не страчана гэта агульнавядомая місія ў сувязі з дэцэнтралізацыяй філарманічнага жыцця ў рэспубліцы, стварэннем канцэртных арганізацый у абласцях?**

— «ЛіМ» некалі падтрымаў меркаванне наконт нямэтазгоднасці дэцэнтралізацыі філарманічнага жыцця. Такая думка адлюстроўвала нязвыкласць сітуацыі — развітанне рэспубліканскай філармоніі з манаполіяй канцэртнай дзейнасці, і сумненні, звязаныя з няразвітасцю прафесійнага музычнага жыцця ў абласных цэнтрах. Ды, нягледзячы на адсутнасць і сёння сапраўднай культуры ў арганізацыі канцэртнай дзейнасці ў абласцях, рашэнне тое было, на маю думку, правільнае.

Для развіцця культуры рэспублікі асаблівае значэнне мае фарміраванне адпаведнага асяроддзя, калі хочаце, культурнай актыўнасці і нашай сталіцы, і рэгіёнаў з глыбокімі гістарычнымі традыцыямі, перадусім Віцебскага ды Гродзенскага, іншых абласных цэнтраў. Віцебск ужо зрабіўся фестывальным цэнтрам, а ў будучым стане цэнтрам еўрапейскага значэння. Стварэнне філармоній дазволіла прыцягнуць у арганізацыю канцэртнай дзейнасці сродкі абласных бюджэтаў. У Гродне, напрыклад, на патрэбы культуры выдаткуецца сёння больш за 3 працэнты абласнога бюджэту. Гэта дазволіла стварыць своеасаблівы па сваёй стылістыцы народны ансамбль «Белыя Росы», камерны аркестр. У Гомелі нараджаецца прафесійны сімфанічны аркестр, фальклорны тэатр. У Брэсце — камерны аркестр ды дзіцячы музычны тэатр.

У абласных гарадах фарміруецца музычная творчая інтэлігенцыя, з'яўляюцца адметныя імёны. Вельмі важна ў гэтых умовах, каб інтарэсы культурнай палітыкі не падмяняліся зручнасцю існавання пэўных устаноў ды груп людзей. Аднак трэба стрымліваць і легкадумную нецярплівасць. Культура прарастае марудна, яе лёгка заглушае пустазелле, таму прафарыентацыя розных музычных напрамкаў з'яўляецца грунтам для фарміравання агульнай музычнай культуры. Добра, што «на досвітку» рынку мы паспелі сфарміраваць прафесійныя музычныя калектывы, так бы мовіць, «канвертуемага» ўзроўню, практычна ва ўсіх жанрах: традыцыйнае народнае, танцавальнае, інструментальнае і харавое мастацтва, камернае, сімфанічнае, эстрадна-ілюзійнае...

**— Ці атрымаюць афіцыйную падтрымку «некамерцыйныя», але — скарыстаю ваша вызначэнне — «канвертуемага ўзроўню» музычныя з'явы, якія ўжо звярнулі на сябе ўвагу спецыялістаў і дасведчанай грамадскасці? Што будзе з ансамблем салістаў «Класік-Авангард», з ідэяй адраджэння беларускай капэлы XVIII стагоддзя, якую спрабуе ажыццявіць Віктар Скорабагатаў?**

— Задуманае Скорабагатавым і ягонымі творчымі паплечнікамі, думаю, мы зможам ацаніць увосень: у філармоніі пройдзе фестываль «Адраджэнне беларускай капэлы», дзе прагучыць нямала музыкі старасвецкай Беларусі. Што датычыць «Класік-Авангарда»: Міністэрства культуры пасадзейнічала, каб ансамбль атрымаў статус канцэртнай адзінкі філарманічнага жанру. Дзякуючы датацыі, прадастаўленай са сродкаў аб'яднання «Белатракцыён», ансамбль пачне паўнацэнную працу пры ДАВТе БССР як філарманічны калектыў, у планах якога намячаюцца і асобныя канцэртныя праграмы з удзелам салістаў тэатра. На яго базе, мы спадзяёмся, у перспектыве будзе фарміравацца доўгачаканая камерная опера.

Але мне не хацелася б, каб у нас ствараліся ілюзіі надыходу бясхмарнага рэнесансу. Праблемы жыцця рэспублікі — гэта і праблемы жыцця мастацтва, рацыянальнае скарыстанне кожнай дзяржаўнай капейчыны — агульны клопат. Цяпер як ніколі важным крытэрыем ацэнкі творчай дзейнасці з'яўляецца ўклад у духоўнае развіццё жыхароў рэспублікі. Праз сённяшнія працэсы, што ідуць у сацыяльна-эканамічным жыцці, да нас вяртаецца і тая форма адносін, дзе вызначальнымі робяцца паняцці «кошт», «цана». Гэта мы павінны мець на ўвазе, разглядаючы, напрыклад, і эвалюцыю сістэмы адукацыі. Можа здацца, што адбываецца дэвальвацыя дыпломаў і грамадства будзе неўзабаве ацэньваць, да прыкладу, музыканта толькі паводле ягонага майстэрства, здольнасцяў — незалежна ад таго, якую і дзе ён атрымаў адукацыю. Таму галоўнае, што здатна «выцягнуць» сістэму адукацыі на новы якасны ўзровень, — гэта павышэнне цаны дыплома, які павінен і сведчыць пра высокую якасць адукацыі, і фарміраваць прафесійны прэстыж навучальнай установы.

Ды навучальная ўстанова не існуе ў вакууме, яна адлюстроўвае атмасферу музычнай культуры, грамадскія эстэтычныя крытэрыі. Значыць, калі мы хочам дасягнуць еўрапейскага ўзроўню музычнай адукацыі, мы павінны стварыць еўрапейскі ўзровень арганізацыі і зместу музычнага жыцця ў сябе, актыўна далучацца да працэсу сусветнага мастацкага жыцця. Але гэта не безнадзейныя мары. Калі ў мінулым наша міністэрства афармляла за год 5-6 творчых калектываў для паездкі за мяжу, дык сёлета толькі ў маі-чэрвені 28 калектываў Беларусі выпраўляліся на гастролі, міжнародныя фестывалі, удзельнічалі ў супольных з інафірмамі праектах гуказапісу.

Асабліва важна, што і нашы фальклорныя, філарманічныя фестывалі робяцца міжнароднымі. Што ж датычыць міжнародных конкурсаў, на якіх адбываецца фарміраванне крытэрыяў ацэнкі

**(Працяг на стар. 12).**

**ЧЫТАЧ ДЗЕЛІЦЦА ЎРАЖАННЯМІ**

# ІМЯ ЁЙ — ПРАЎДА!

У перадапошнім красавіцкім нумары «ЛіМа» за 1989 год была надрукавана паэма Сяргея Законнікава «Чорная быль». Сёлета яна ўбачыла свет, выйшаўшы ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» разам з вершамі паэта і яго перакладамі ўкраінскай паэзіі (зборнік «Заклінанне»). Назву зборніку даў трыптыхіх, прысвечаны памяці Уладзіміра Караткевіча, традыцыі, матывы і вобразы паэзіі якога шырока і шчыра наследуе Сяргей Законнікаў, не губляючы пры гэтым свайго адметнага творчага аблічча. У многіх вершах, змешчаных у зборніку «Заклінанне», гучыць па-караткевічаўску палкае слова любові да Беларусі: «Слова пра годнасць», «І ўсё ж — веру», «Святая сляза», «Развітанне з Італіяй». Побач з гэтай спрадвечнай тэмай — новыя, нетрадыцыйныя, бо час няўмольна ўносіць свае карэктывы ва ўсе праявы чалавечага быцця. Гэта і наша вечная памяць («Лесапавал»), гэта і наша ганьба («Ліга Дуніна-Марцінкевіча»).

Гэта наш вечны боль — Чарнобыль, які пульсуе, б'ецца ў паэме «Чорная быль». Складаецца яна з трынаццаці раздзелаў, кожны з якіх мае права і на асобнае існаванне, бо дасканала закончаны і па змесце, і па форме, і, тым не менш, звязаны з наступнымі і папярэднімі непарыўнаю сувяззю.

*Паэма крычыць аб тым, аб чым яшчэ зусім нядаўна маўчалі або гаварылі шэптам:*

**«Пра тое, што падсечана**
**карэнне**
**І рушацца спрадвечныя**
**асновы».**

Ці не таму раскрыў сваё страшнае чэрава Чарнобыль, што вакол «упадак духу так відаць», што «зямлю — на ўсе вякі багацце — дачаснікі і труцяць і калечаць». Вось яна, страшная расплата за нашу абыякавасць, эгаізм, прыстасавальніцтва. І віна за гэта ляжыць на кожным з нас, ляжыць на душы паэта:

**Я вінаваты, бо ў заторах**
**Сваіх грабежніцкіх уцех**
**Забіў сябе, сабе ўжо вораг**
**Сам чалавек, і быць ім — грэх.**

Кожны раздзел паэмы мае эпіграфам ці прымаўку, ці радкі з народнай песні. Яны аб'яднаны адзінай ідэяй і не могуць пакінуць абыякавымі: настолькі арганічна ўплятаюцца ў агульны настрой паэмы, з'яўляючыся цікавай творчай знаходкай.

«Як прыйдзе ліха, то не ўседзіш ціха»,— кажа прымаўка. І тым не менш,

**Скакалі і ў Швецыі стрэлкі**
**прыбораў,**
**Еўропу трывога гняла.**
**Зашкальвала ўсё**
***чалавечае гора...***
**І зона маўчання была.**

Бо ўразрэз з цвярозым разлікам, народнай мудрасцю і, нарэшце, элементарнай прыстойнасцю ішла палітыка афіцыйных улад.

Магчыма, таму сярод злавеснага духу скanання, нязнанай бяды аднолькава страшная трагедыя і чалавека, і таго, кім спрадвеку палохалі людзей і дзяцей, калі «...з пасткі смяротнай да страчанай волі звер не бег, а, зубамі скрыгочучы, поўз... Зноў на поўнач — гаямі, лагчынамі, полем... Касмылямі спаўзала, свяцілася поўсць».

Раздзел «Чарнобыльскі воўк» — самы выбуховы па сіле пачуцця, самы трагічны ва ўсёй шматстайнай канве твора.

А вось і «Дождж у Хойніках», цёплы вясновы дождж. Ды толькі яму ніхто не рады, ні яму, ні сонейку — і жыццё селяніна губляе ўсякі сэнс, бо за ўсе тысячагоддзі чалавечага існавання знітаваўся лёс чалавека з лёсам прыроды. А тут — «распалась связь времен...».

**А дзе ты купіш, знойдзеш**
**тое зелле,**
**Каб вылечыць зямельку,**
**родны кут?**

І гэты боль старой сялянкі водгукам чуваць ужо ў раздзеле «Палыновая зорка».

**Глядзіць Беларусь на мяне,**
**Чарнеюць кругі пад вачыма.**
**Народ можа верыць мане,**
**Зямлю падмануць**
**немагчыма...**

Раздзелы «За калючым дротам» і «Вяртанне» нягучнымі, не для друку, разважаннямі дапамагаюць зразумець маладым, што такое радзіма—малая радзіма — для нашых бацькоў, маці, бабуляў і дзядуляў. Настальгія па ёй перамагае страх, трывогу, кліча да родных сцежак, да родных сцен, да родных магіл.

А бабулька, якая прабралася ў зону, каб паглядзець на сваю хату, узяць на новае месца абразок Міколы, што вісеў над ложкам? Каго пакінуць абыякавымі яе словы, звернутыя да салдатаў: «Вы не лайце, дзеткі... Добра мне... Паверце... Хатку паглядзела, можна і памерці...».

Зноў нарастае трывога ў голасе паэта. Аказваецца, у зону прабіраюцца не толькі перасяленцы. Каштоўнасці ў кожнага свае. На вялікі жаль, мы, урбанізаванае пакаленне, слаба звязаны з той жа малой радзімай. Яна для нас часцей за ўсё пляцоўка ў пад'ездзе шматпавярховага дома, на якой сярод чатырох — *і нашы дзверы.* На жаль, гэта так... І абразок Міколы для многіх маіх сучаснікаў — каштоўнасць крыху іншага парадку, чым для бабулі ў зоне. Вось таму і «паўзуць, паўзуць, як вошы, марадзёры па нежывой, атручанай зямлі». Не магу не прывесці цалкам страфу, дзе майстэрства мастацкай дэталі дасягае, на маю думку, дасканаласці:

**Пачырванее ад натугі**
**морда —**
**Не паддаецца, а такі каўнер!**
**Якая прыгажуня носіць горда**
**Хамут радыяцыйны той**
**цяпер!**

Ад канкрэтных выпадкаў да шырокіх абагульненняў — такім шляхам асэнсоўвае паэт у раздзеле «Марадзёры» праблемы сённяшняга грамадства і лёсы дня наступнага.

Дзень наступны — гэта, у першую чаргу, нашы дзеці. Але нашы дзеці — гэта і дзеці палескіх сёлаў, якія вянуць, «нібы скошаныя краскі», за бетоннай сцяной, за бальнічным акном, у белых палатах.

**Працэдуры, як закон,**
**без слова.**
**Быццам шмат было іх**
**на вяку.**
**Падстаўляе пацыент чарговы**
**Тоненькую, лёгкую руку.**
**Ён маўчыць, хоць вусны**
**пабялелі,**
**Ён трывае лепей, чым стары,**
**Мо таму слязой і накіпелі**
**Вочы маладзенькай**
**медсястры.**

Чытаеш — і даўкі камяк сціскае горла, бо ўвачавідкі бачыш гэтую празрыстую дзіцячую ручку з блакітнымі жылкамі, вялікія, сумныя недзіцячыя вочы і ў іх — зусім дарослы боль і дакор. І ўжо, не аддзяляючы свайго жалю і спачування ад душэўнага крыку маладзенькай медсястры, шэпчаш вінавата разам з ёю: «Болей не магу я... не магу...»

А ў чым віна дзяцей Чарнобыля? У тым, што іх бацькі не здолелі выціснуць з сябе рабскую пакорлівасць? Што часам выходзілі ў «людзі», у «начальства» цаною здрады самаму святому? Што не хацелі «з крыўдаю змагацца і галаву ўгіналі моўчкі ў плечы»? Што плакалі, хаваючы тырана, а па роднай мове не пралілі ніводнай слязінкі?

Шмат усхваляваных пытанняў гучыць са старонак паэмы. І кожны павінен сумленна адказаць на іх. Адказаць, у першую чаргу, сабе, бо «толькі ўласнае сумленне — і першы, і адзіны бог».

Вельмі хочацца, каб паэма Сяргея Законнікава дайшла да масавага чытача, пайшла, як кажуць, у народ. Бо імя ёй — Праўда.

**Алена БАРАДЗІНА,**
**настаўніца.**

г. Слонім.



Паэт і чытачы. (Аўтографы дае В. Зуёнак). Фота Ул. КРУКА.

# САКРЭТ МАЙСТЭРСТВА

Гэта вельмі адказна — выхоўваць чалавека, а тым больш дзіця, якое ўваходзіць у жыццё даверліва і шчыра, прагне пазнаёміцца з навакollем. Яно яшчэ не ведае, што ёсць зло і дабро, сябрам і дарадчыкам прыходзяць да яго матчына слова, бабуліна казка, кніга. «Дзіцячыя кнігі пішуцца для выхавання»,— пісаў Бялінскі, і ў той жа час ён падкрэсліваў, што ў іх не павінна быць гатовых рэцэптаў.

Як жа зацікавіць маленькага чытача? Як прывабіць яго ўвагу? Простыя, здаецца, пытанні, а вось адказаць на іх цяжка. Думаецца, калі паэт любіць дзяцей, умее гуляць з імі, ведае асаблівасці іх успрымання, то ён знойдзе патрэбныя словы.

Дзіцячы пісьменнік — чалавек асаблівага таленту, таленту вынаходцы, фантазёра, дзівака, у якога мудрасць спалучаецца з дзіцячай непасрэднасцю. Вынаходлівасць Р. Барадуліна як дзіцячага паэта проста здзіўляе. У гэтым пераконваешся, калі чытаеш і яго кнігі, і паэтычную нізку ў «Вясёлцы» (1990, № 11). Паэт прыдумвае новыя сюжэты, словы, вобразы, неверагодныя сітуацыі.

**Ты чуў?**
**Вырас у кошкі чуб...**

**Ты чула?**
**Кіта праглынула акула...**

**Вы чулі?**
**Ваўкі надзелі кашулі,**
**Кожны**
**Стракатую ў клетку**
**Каўбойку,**
**І з вераб'ямі**
**Палезлі ў бойку.**

# І ПОШУК, І ВУЧОБА

Кожная кніга — адкрыццё. Кніга невядомага раней аўтара — адкрыццё двайное. Менавіта такім двайным адкрыццём стала для мяне ў свой час сустрэча з кнігай Генрыха Далідовіча «Міланькі». Потым былі «Усё яшчэ наперадзе», «Дырэктар», «На новы парог», «Гаспадар-камень» і інш. Нягледзячы на тыя пралікі, што бачацца ў агульным працэсе станаўлення творчай індывідуальнасці пісьменніка, творчасць яго хвалюе чытача праўдай жыцця, эмацыянальным адлюстраваннем рэчаіснасці, вастрынёй канфліктаў, актуальнасцю праблематыкі.

Зразумела, для таго, каб аб'ектыўна ацаніць зробленае, трэба ў сукупнасці бачыць як пралікі, так і вяршыні ў творчасці пісьменніка. А ў Г. Далідовіча вяршынь больш, чым пралікаў, таму ёсць сэнс паразважаць над адметнасцю мастакоўскага светаадчування, вызначыць, якімі прыёмамі і мастацкімі сродкамі карыстаецца пісьменнік пры вырашэнні пастаўленых праблем. І гэта асабліва дарэчы будзе зрабіць цяпер, калі пісьменнік вядзе даволі актыўны творчы пошук, што яшчэ раз даказвае пэўную суб'ектыўнасць напісанага крытыкай пра некаторыя з апошніх твораў Генрыха Далідовіча.

Творчасць пісьменніка, на мой погляд, можна ўмоўна падзяліць на два перыяды, але — толькі ўмоўна. Таму што ў кожным з гэтых перыядаў, акрамя адметных характэрных рысаў, ёсць і элементы, што іх яднаюць. І таму яшчэ, што ёсць у празаіка шмат задум і планаў. «Хачу напісаць некалькі аповесцей на сучасную тэму, у тым ліку і на гарадскую. Збіраю матэрыял пра ўдзел нашых продкаў у Грунвальдскай бітве», — прызнаваўся Г. Далідовіч у інтэрв'ю *«Настаўніцкай газеце»*.

І хоць рана яшчэ рабіць канчатковыя вывады, выдзелім гэтыя перыяды: першы ўключае ў сябе творы, што былі напісаны да аповесці «На новы парог» (1980 г.) і ахоплівае сабой прыблізна 1966—1980 гг. Другі перыяд пачынаецца з названай аповесці. Менавіта ў ёй і ў творах, што з'явіліся пасля яе, Далідовіч паўстае перад чытачом, можна сказаць, у новай якасці. Назва аповесці можа лічыцца сімвалічнай не толькі ў адносінах да яе зместу, а і ў супастаўленні з усёй папярэдняй творчасцю. Гэта

# ЗНАЙСЦІ СВАЮ ТЭМУ

Усім добра вядома, першую баразну на гістарычнай ніве пралажыў У. Караткевіч. У тыя застойныя часы яму было няпроста надрукаваць свае творы, бо мінулае нашага народа старанна замоўчвалася. Але жыццё не стаіць на месцы. І тут сталася так — многія пісьменнікі сёння аказаліся як бы ў роспачы і разгубленасці. Многім з тых, хто паспеў выдаць з добры дзесятак кніжак, стала крыху ніякавата за некаторыя свае творы. Я не хачу сказаць, што за ўсе! Барані мяне Божа!

Вось вам прыклад. Не так даўно вядомы празаік І. Шамякін прызнаўся ў адным з інтэрв'ю, што калі б ён у нашыя дні пачынаў пісаць «Петраград—Брэст», то вельмі ў многім раман адрозніваўся б ад ужо напісанага. І тут няма чаму здзіўляцца, бо нашы погляды на многія акалічнасці мяняюцца з кожным днём.

З'яўляюцца *на паліцах* кнігарняў і творы, што былі ў свой час забаронены. Іх аўтары добра ведалі, што надрукаваць іх у бліжэйшыя гады не будзе магчымасці, але, бачачы несправядлівасць, выплёсквалі свой боль на паперу.

Да такіх пісьменнікаў адносіцца і У. Дамашэвіч. Дваццаць год праляжаў у ягоным стале раман «Камень з гары». А вазьміце яго аповесць «Кожны чацвёрты»: яе таксама доўгі час не прапускалі ў друк. І ўсё з-за таго, што быццам у ёй не ў тым кірунку адлюстраваны партызанскі рух на Беларусі ў гады вайны.

Увогуле пісьменніку не проста знайсці сваю тэму. Пісаць аб буднях сённяшняга дня? Але па гарачых слядах можна і памыліцца, патрэбен нейкі прамежак часу, каб асэнсаваць усё, што цяпер адбываецца ў краіне, а галоўнае — у душах людзей.

Зыходзячы з усяго сказанага, ёсць *падставы* думаць, што многія нашы пісьменнікі, асабліва маладыя, накінуцца дружна на гістарычны жанр.

Цікава і смешна. Тут удала выкарыстаны элементы парадокса, радкі верша насычаны гумарам. Гумар — вось што імпануе дзіцячаму аптымізму і жыццярадаснасці. Гэта неад'емная якасць дзіцячых твораў Р. Барадуліна. Паэт гаворыць, што гумар — вострая начынка, перчык, прыправа, якія заўсёды добра робяць сваю справу.

**Слёзы льюцца ў пяць руччоў.**
**Нават кіт**
**Не есць смятаны.**
**Як не плакаць?**
**Мама зноў**
**Не паслухалася Ланы.**

Мова Р. Барадуліна — багатая, яркая, рыфма найчасцей дакладная, гучная. Шырока выкарыстоўвае паэт гукапіс. Ён умее перадаць гукам, спалучэннем слоў пошум ветру, музыку хваль, шэпт ліствы, шоргат шын на шашы:

**Штохвіліны на шашы**
**Шумна, як на кірмашы.**
**Шоргат,**
**Шорах,**
**Шум птушыны.**
**За машынаю машына.**
**Нешта шэпча**
**Шына шыне...**

Лёгка, весела паэт гуляе «са словам і ў слове», непрыкметна адкрывае дзецям таямніцы роднай мовы, яе багацце, трапнасць.

**Важныя прыйшлі бабры:**
**— Мы па дрэву разбяры,**
**— Паспрабуй вас разбяры —**
**Потым прыйдзеце, сябры.**

А вось які канфуз адбыўся на экзамене з быком, які завецца — як (верш-казка «Экзамен»):

**— Завуць вас як?**
**— Як.**
**— Як гэта як?**
**— А так вось — як.**
**— І ставяць забіяку**
**Дрэнную адзнаку.**

Дзеці з дапамогай аўтара атрымліваюць шмат разнастайных звестак, знаёмяцца з жывёламі, пра якіх раней мала ведалі або наогул нічога не чулі. Ці не з гэтага пачынаецца ў малых цікавасць і любоў да ўсяго жывога?

Вядома, што дзеці кожны дзень задаюць сотні пытанняў. Шмат пытанняў і ў дзіцячых творах Р. Барадуліна. Яны абуджаюць і думку, і фантазію, і ўяўленне малых, актывізуюць іх працу спазнання. Пытальныя сказы сустракаем і ў назвах вершаў: «Ты чуў? Ты чула?», «Ці пазяхае бегемот?», «Што там, што там?» і іншыя.

Калі абагульняць думкі пра некаторыя сакрэты майстэрства Р. Барадуліна як дзіцячага паэта, дык неабходна сказаць, што ў гэтага аўтара ўсё скіравана на тое, каб зацікавіць дзяцей, актывізаваць іх мастацкае мысленне, далучыць да скарбаў роднай мовы. Вершы для дзяцей Р. Барадуліна — яркая і арыгінальная з'ява ў нашай паэзіі.

**Таццяна КРАШЧАНОВІЧ,**
**студэнтка БДУ**
**імя У. І. Леніна.**

---

той парог, тая прыступка, на якую ўзышоў Г. Далідовіч у аналізе духоўнага свету чалавека, жыццёвых і сацыяльных працэсаў. Больш сур'ёзнымі сталі праблемы, больш напружаным — развіццё дзеяння.

І калі першы перыяд, умоўна выдзелены намі, можна было б назваць перыядам вучнёўства, то другі адметны грунтоўным усталяваннем на пазіцыях класічна-традыцыйнай манеры пісьма побач з аналізам нетрадыцыйна пастаўленых праблем.

Ужо ў самым пачатку творчасці пісьменнік уступіў у спрэчку з усталяваным, у нечым устарэлым поглядам на асобу вясковага інтэлігента, у прыватнасці, настаўніка. І хоць не ўдалося аўтару пазбегнуць пралікаў у сваім «настаўніцкім цыкле» — Паўла Васільца ён павёў па службовай вертыкалі, мала імкнучыся развіваць яго характар углыб, — усё ж вопыт стварэння вобраза інтэлігента прыдаўся пры абмалёўцы вобраза Алеся Нямкевіча ў рамане «Гаспадар-камень». Так, Г. Далідовічу давялося выкарыстоўваць уласны вопыт, бо ў стварэнні вобраза інтэлігента ў літаратуры нашай нацыянальнай быў значны перапынак. Вобраз Алеся Нямкевіча з рамана «Гаспадар-камень» —спроба стварыць якасна новы тып героя-інтэлігента, якая, хочацца верыць, не застанецца толькі спробай.

Другі істотны момант — эвалюцыя жанраў. Гэта не проста рух ад апавядання да аповесці і затым да рамана. Побач са звычайнай аповесцю ў пісьменніка сустракаем аповесць у навелах, побач з гістарычным раманам («Гаспадар-камень») — раман-хроніку («Пабуджаныя»).

Вытокі хранікальнасці варта шукаць яшчэ ў першым рамане «Гаспадар-камень», а можа, і раней, у спробах пісаць трыпціхамі, уласцівымі творчасці Г. Далідовіча.

Назіраем мы ў пісьменніка і эвалюцыю героя. З аднаго боку — гэта эвалюцыя ўглыб характару. З другога — героі ўтвараюць своеасаблівы ланцужок вобраза — прадстаўнікоў цэлых пакаленняў: дзеці, сучаснікі аўтара (героі «настаўніцкіх» аповесцяў і шэрагу апавяданняў), бацькі (героі трыпціху «Цяпло на першацвет», аповесці «Жывы покліч»), дзяды (героі раманаў «Гаспадар-камень», «Пабуджаныя»). І не проста «дзеці-бацькі-дзяды», а іх свет, праблемы, перажыванні, а таксама канкрэтны гістарычны час, гістарычныя ўмовы і нават палітычная атмасфера, што панавала ў кожную адпаведную эпоху.

Такое спасціжэнне жыцця бачыцца нашмат глыбейшым і цікавейшым, чым простая службовая «вертыкаль» Паўла Васільца: радавы настаўнік — дырэктар, сціплы навічок —заслужаны настаўнік.

Звяртае на сябе ўвагу ў творах Г. Далідовіча і прынцып маральнага супрацьстаяння ў паказе характараў. Самы яркі прыклад — вобразы Васільца і Сліжа ў цыкле «настаўніцкіх» аповесцей («Усё яшчэ наперадзе», «Міланькі», «Завуч», «Дырэктар»). Сумленны, адданы працы чалавек — і «ўрокадацель» з уласцівай толькі яму псіхалогіяй чалавека, здольнага на ўсё дзеля сваёй выгады, якім з'яўляецца Сліж. Гэты прынцып знайшоў сваё ўвасабленне і ў стварэнні вобразаў Алеся Нямкевіча і Ледзяша ў рамане «Гаспадар-камень».

Калі гаварыць пра паэтыку твораў Г. Далідовіча, то можна назваць яе рэалістычна-традыцыйнай. Мы можам гаварыць пра традыцыйнасць дыялогаў, маўлення персанажаў, апісанняў прыроды і г. д. У лісце да аўтара гэтых радкоў Г. Далідовіч піша так: «Паколькі я рэаліст з эпічнымі схільнасцямі, як кажуць крытыкі, то люблю малюнак, апісанне, партрэт, дыялог. Як мог, стараўся перадаць лексіку роднай вёскі, як мог, уцякаў ад штампаў, калек, націскаў на фразу з беларускім мысленнем і стылем». Аднак самае істотнае для нас тое, што калі ў пачатку творчасці традыцыйная манера пісьма для Далідовіча была толькі школай, то ў апошні час яна стала сапраўдным творчым прынцыпам.

Трошкі ўбаку ад усяго напісанага стаіць апошні раман Генрыха Далідовіча «Свой дом». Ці не пачатак гэта трэцяга творчага перыяду?

Падагульняючы сказанае, варта адзначыць, што адметнасцю станаўлення творчай індывідуальнасці празаіка з'яўляецца актыўны творчы пошук, які, як бачым, дае добры плён, і плённая вучоба на ўласных памылках.

**Алена МАНКЕВІЧ,**
**настаўніца.**
Гродзенскі р-н.

---

Тут, шчыра скажам, прастор неабсяжны, як тая тайга ў Сібіры. На гістарычную тэму пішуць многія нашы пісьменнікі. Раман Л. Дайнекі «Меч князя Вячкі» вы не знойдзеце ў кнігарнях. В. Коўтун напісала цікавы раман аб Алаізе Пашкевіч «Крыж міласэрнасці». Таіса Бондар — раман аб Ефрасінні Полацкай пад назваю «Спакуса». Захапляючая выйшла кніга і ў Вольгі Іпатавай — «За морам Хвалынскім».

Вялікія надзеі ўскладваюць чытачы і на Уладзіміра Арлова. Кожная ягоная кніжка хутка знікае з паліцаў кнігарняў.

Асобна хацелася б сказаць пра маладога празаіка Вітаўта Чаропку. Сёлета павінен выйсці з друку ягоны раман «Храм без бога». Адам Мальдзіс, які адзін з першых прачытаў раман яшчэ ў рукапісе, сказаў так: «У Вітаўта Чаропкі талент ад Бога!»

І сапраўды, калі крыху пазней я пазнаёміўся з яго апавяданнямі ў перыядычным друку, то сам пераканаўся ў самабытным таленце маладога аўтара. Здавалася, што напісана гэта сталым майстрам, а не пачаткоўцам.

Даць больш грунтоўную адзнаку вышэйзгаданым творам — прамы абавязак нашых крытыкаў, а я спынюся на крыху іншых аспектах.

У моры гістарычнага жанру столькі падводных рыфаў і розных перашкод, што правесці паўз іх свой літаратурны карабель вельмі складана. Тут мала быць адукаваным, валодаць мовай і энцыклапедычнымі ведамі. Калісьці, яшчэ ў далёкія школьныя гады, прачытаў я невялічкія аповесці К. Паустоўскага пра І. Левітана, А. Сярова, А. Кіпрэнскага. Колькі разоў іх пасля перачытваў і нават цяпер не магу зразумець, як аўтару ўдалося так ярка вылепіць вобразы знакамітых мастакоў!

А вазьміце яго невялічкае апавяданне «Ручаі, дзе плёскае стронга». Гэта ж паэма ў прозе!

Вельмі ўражвае твор Сяргея Вароніна «Жыццеапісанне І. Паўлава», які быў у свой час надрукаваны ў раман-газеце. Як прызнаваўся пасля сам аўтар, браўся ён за яго са страхам, бо ўжо было напісана пра Паўлава, знакамітага вучонага, каля дваццаці кніжак. Але раман атрымаўся, яго ўхвалілі нават тыя людзі, якія асабіста ведалі вялікага вучонага.

У крыху іншым святле паўстае перад намі пісьменнік В. Пікуль. Яго раманы «Вайна жалезных канцлераў», «На задворках Расійскай імперыі», «У апошняй рысы» і многія іншыя чытаюцца на адным дыханні. Чым жа прыцягваюць раманы і невялічкія гістарычныя навелы В. Пікуля? Цяжка адказаць на такое пытанне. Тут і выдатнае веданне гістарычнага матэрыялу, дзе настолькі ўсё вывeрана, што немагчыма аспрэчыць тыя або іншыя падзеі. Тут і высокая літаратурная тэхніка. Вам не трапяць на вока зацяжныя, груваcткія апісанні, калі чытач прадзіраецца скрозь старонкі, як цераз непраходныя балоты.

У заключэнне трэба дадаць, што публіцыстычныя творы, прысвечаныя вядомым у мінулым дзеячам і падзеям, у многім прайграюць мастацкаму твору: гістарычны раман, калі ён напісаны ўдала, бярэ нас у палон з першых старонак.

**Павел САВОСЬКА.**

---

# Мелодыя для ўдзячных сэрцаў



Адна з апошніх кніг у серыі «Паэзія народаў свету», якую шмат гадоў выпускае выдавецтва «Мастацкая літаратура»,— томік паэзіі балгарына Любаміра Леўчава «Мелодыя для флейты». Перакладзена яна на беларускую мову Нілам Гілевічам, даўнім будаўніком літаратурных мастоў паміж Беларуссю і Балгарыяй: колькасць паэтаў з гэтай краіны, увасобленых ім па-беларуску, набліжаецца да 250.

Выбар Л. Леўчава — невыпадковы. Пра гэта перакладчык гаварыў на прэзентацыі кнігі «Мелодыя для флейты», што адбылася ў Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі ў прысутнасці самога аўтара. Любамір Леўчаў — адзін з самых яркіх і самабытных творцаў сучаснай Балгарыі, вядомы грамадскі і літаратурны дзеяч. Ён быў галоўным рэдактарам газеты «Литературен фронт», на працягу дванаццаці гадоў старшыняваў у Саюзе пісьменнікаў Балгарыі, цяпер рэдагуе часопіс «Арфей». І, вядома ж, шмат піша. Першая сустрэча Н. Гілевіча з Л. Леўчавым адбылася роўна трыццаць гадоў назад, пад час першага прыезду ў Балгарыю нашага паэта. Тады ў Л. Леўчава было ўсяго 2 кнігі, цяпер — больш дваццаці.

Я лічыў сваім святым абавязкам, падкрэсліў Н. Гілевіч, данесці паэзію Л. Леўчава беларускаму чытачу. Гэта паэт вельмі высокага грамадзянскага пачуцця і адначасова лёгка ранімага чалавечага сэрца. Ён блізка прымае ўвесь боль, адкуль бы ён ні зыходзіў — ад канкрэтнага чалавека ці ад усяго чалавецтва. Увогуле, Л. Леўчаў з вялікім даверам ставіцца да чалавека і заўсёды спадзяецца на ўзаемны давер.

Н. Гілевіч прачытаў некалькі вершаў Л. Леўчава ў сваім перакладзе. Творы госця гучалі таксама ў выкананні В. Анісенкі і... намесніка старшыні прэзідыума Таварыства Н. Нерад. Сапраўды, паэзія высокага мастацкага гучання здатна аднолькава ўсхваляваць сэрца кожнага.

Галоўны рэдактар часопіса «Полымя» С. Законнікаў прыпаднёс Л. Леўчаву нумар часопіса, у якім змешчаны верш яго ў перакладзе Н. Гілевіча. У знак дружбы на вокладцы распісаліся ўсе супрацоўнікі выдання — ад кур'ера да галоўнага рэдактара.

Выступаючы перад беларускімі сябрамі са словам у адказ, Л. Леўчаў падкрэсліваў агульнасць лёсаў балгарскага і беларускага народаў. Балгарскі народ таксама двойчы адраджаўся, вяртаўся па сутнасці нанава да жыцця. Цяпер такі працэс небывалага нацыянальнага Адраджэння паспяхова праходзіць у Беларусі. Госць адзначыў, што наша рэспубліка пакарыла яго прыгажосцю, якая адчуваецца ва ўсім — у прыродзе, людзях. Пасля ён прачытаў верш, прысвечаны свайму творчаму пабраціму Н. Гілевічу — верш толькі што напісаны, не зусім завершаны.

«Мелодыя для флейты»... Прэзентацыя кнігі паказала, што, вершы, сабраныя ў ёй, спараджаюць мелодыю, на якую адгукаюцца ўдзячныя людскія сэрцы.

**НАШ КАР.**
Фота А. КАЛЯДЫ.

---

**НОВЫЯ ВЫДАННІ**

# ПАД ВЕТРАЗЕМ АДРАДЖЭННЯ

**Ці звярнулі вы ўвагу на гэтую газету? На «Славянский вестник»»! Не на «Славянские ведомости», якія невядома кім выдаюцца, а падпісваюцца небезвядомай Т. Бумажковай, а на «Славянский вестник» — выданне Фонду славянскага пісьменства і славянскіх культур? Фонд групуе вакол сябе людзей, апантаных ідэяй славянскага супрацоўніцтва і адраджэння. Сярод іх шмат вядомых пісьменнікаў, мастакоў, артыстаў. Беларускае аддзяленне фонду ўзначальвае галоўны рэдактар часопіса «Полымя» Сяргей Законнікаў.**

**Не без намаганняў апошняга асобныя нумары «Славянского вестника», хоць і са спазненнем, прыходзяць і ў нашу рэспубліку. Цяпер яго можна набыць ужо і ў кіёсках «Саюздруку», а яшчэ нядаўна газету вымушаны былі распаўсюджваць самі актывісты фонду. І друкуецца яна з цяжкасцю. Рэдакцыя знаходзіцца ў Маскве, а выходзіць у свет «Славянский вестник» у Архейскай друкарні, якая належыць... Дзярждэпартаменту СССР Малдова па справах выдавецтваў, паліграфіі і распаўсюджванні кніг.**




**Чым жа цікавы «Славянский вестник» чытачам? Пастаяннымі сталі ў газеце рубрыкі «Славянскі свет», «Абуджэнне», «Чым займаецца фонд» і, вядома ж, «Славянкі». Хочацца, каб з цягам часу ў гэтай рубрыцы з'явіліся расказы пра Ефрасінню Полацкую, Рагнеду... Зрэшты, нямала было на беларускай зямлі жанчын, якія сцвярджалі сваёй дзейнасцю ідэі адраджэння.**

**Цікавым абяцае быць і цыкл беларускага пісьменніка Уладзіміра Бутрамеева, які на аснове легендаў, паданняў, а таксама летапісных фактаў прасочвае асноўныя перыяды гісторыі славянскіх народаў. Першая публікацыя — «Легендарная гісторыя паходжання народаў зямлі і славян» — разглядае падзеі з самага даўняга часу, так бы мовіць, ад Адама і Евы...**

**Аўтарамі «Славянского вестника» былі ўжо вядомыя пісьменнікі Д. Балашоў, У. Крупін, В. Курбатаў і іншыя.**

**А. М.**



ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСАЎ СЬВЕТУ — The Society of the Byelorussians of the World

# БАЦЬКАЎШЧЫНА

1991

СЛОВА ДА ЗЕМЛЯКОЎ

## Мы дзеці адной маткі

Чаму мы сёння павінны аб'ядначца ў імя нашай беднай Бацькаўшчыны? Зыходзіць трэба з таго, што наша Бацькаўшчына будзе бяднейшая на кожнага свайго сына ці дачку, якія застануцца ўбаку ад нашага агульнага руху да аб'яднання, да паразумення.

Хай мы сёння гаворым нават на розных мовах, мы павінны памятаць, што мы дзеці адной маткі і ў нашых жылах цячэ беларуская кроў, кроў нашых продкаў. І мы, памятаючы пра гэта, павінны дбаць пра сваю маці Беларусь.

Вось і сёння стаіць перад намі задача: не загінуць! А для гэтага патрэбна адно — аб'яднацца! Успомнім старую беларускую казку пра бацьку, сварлівых сыноў і венік. Яна старая як свет, але мудрая. І яе мудрасць вельмі патрэбна нам сёння.

Нам трэба падлічыць свае сілы, каб ведаць, колькі нас— свядомых, шчырых патрыётаў Бацькаўшчыны, каб ведаць, якую задачу мы можам выканаць, на якую справу замахнуцца, каб адолець яе. Нам трэба ведаць, каму неабходна дапамога— маральная і матэрыяльная, дапамога тым, хто страціў сілы і веру ў барацьбе з жыццём, хто расчараваўся і ўпаў духам. Такіх людзей нямала, і наш першы абавязак — вярнуць ім веру і сілу духу. Нам трэба вярнуць тых, хто зусім адышоў ад свайго роднага, хто выракся і адвярнуўся ад свайго народа і залічыў сябе да рускіх ці палякаў — да тых, за кім большая сіла, а раз сіла, то і права, і будучыня, і дабрабыт. І як гэта ні балюча прызнаваць, а такіх людзей шмат.

Ва ўсякім разе, нам трэба будзе патраціць шмат намаганняў, каб яны перасталі быць для нас чужымі, каб мы для іх зноў сталі сваімі. Не будзем духоўна скупымі, раскрыем насустрач ім свае сэрцы і скажам: «Браты! Мы на вас не забыліся! Мы вас чакаем! Мы верым, што вы прыйдзеце да нас, што вы вернецеся на лона свае Бацькаўшчыны!»

І скажам словамі з верша Янкі Купалы:

Не пагаснуць зоркі ў небе,
Покуль неба будзе,

Не загіне Край наш родны,
Покуль будуць людзі.

**Уладзімір ДАМАШЭВІЧ,**
**сябра Рады «Бацькаўшчыны».**

# СТЫМУЛ АДРАДЖЭННЯ

Так складваецца, што старонка «Бацькаўшчына» не паспявае за ходам часу, а, значыць, не можа ў сціслы тэрмін інфармаваць чытача пра дзейнасць Згуртавання. Сёе-тое пры гэтым, вядома, адсейваецца, страчвае актуальнасць, аднак ёсць падзеі, значэнне якіх значна шырэйшае за адведзеныя ім дні. Да такіх, бясспрэчна, адносіцца і Кангрэс беларусістаў. Пра яго ўжо нямала паведамлялася ў сродках масавай інфармацыі. Таму задача ў нас больш вузкая і канкрэтная: паглядзець на Кангрэс з пазіцыі ўдзелу ў ім «Бацькаўшчыны».

Як чытач памятае, у Мінск, побач з іншанацыянальнымі навукоўцамі, былі запрошаны і прадстаўнікі беларускай эміграцыі. Прыехала іх няшмат, усяго некалькі асоб, але сталася так, што яны апынуліся ў цэнтры ўвагі ўсяго Кангрэса: іх літаральна абсядалі прадстаўнікі прэсы, ля іх роем віліся розныя апекуны. Кажучы па шчырасці, прадстаўнікам «Бацькаўшчыны», якія прыклалі нямала намаганняў, каб запрасіць сюды сваіх далёкіх суродзічаў, так і не ўдалося ў тым тлуме з імі па-належнаму пагаварыць. Але куды важней тое, што беларусы са Злучаных Штатаў Амерыкі здолелі годна заявіць пра сябе, сказаць важкае слова пра беларускую культуру, пра лёс беларускай эміграцыі. Цікавасць да ўсяго гэтага, паўторым яшчэ раз, была незвычайная: канферэнц-зала Дома літаратара, дзе праходзіў «круглы стол» па беларускай дыяспары, была набіта дарэшты, хоць побач, у Вялікай зале, большасць месцаў былі пустымі. Але гэта ўжо выдаткі арганізацыі. У звышцікавасці да прадстаўнікоў эміграцыі, вядома, выяўлялася і звычайнае чалавечае: а што гэта за людзі, якіх на працягу дзесяцігоддзяў наша афіцыйная прапаганда выстаўляла невядома кім і чым. Звычайныя, аказваецца, людзі, нічым не горшыя за нас. А тое, што яны абвострана чуйна рэагуюць на некаторыя словы і з'явы, дык гэта вынікае і з іх вернасці беларускасці, якой яны не здрадзілі ў тым далёкім свеце, і з рэакцыі на нашу пазбаўленую разумнасці прапагандысцкую зласлівасць, і з таго, што большасці іх ці іхніх бацькоў дакрануліся самым непасрэдным чынам жахі сталінскіх часоў. Не было б таго генацыду, жыла б незалежнай і шчаслівай наша Беларусь, дык, напэўна, не пазакідаў бы лёс гэтых людзей далёка за акіян. Але хіба не выклікае пашаны і захаплення тое, што яны здолелі зберагчы і свята захаваць у сваіх сэрцах вернасць бацькоўскім традыцыям, сваёй культуры і мове! І, напэўна, не вельмі ўтульна пачуваліся тыя нашы тутэйшыя навукоўцы, якім дзеля такой нагоды давялося, раз за разам спатыкаючыся, прамаўляць па-беларуску, тады як з вуснаў эмігрантаў наша мова лілася натуральна і нязмушана, так, як гаварыла на ёй інтэлігенцыя дваццатых гадоў, да таго, як яе яшчэ не ўціскалі ў пракрустава ложа «слияния с великим и могучим».

Тое, што словы дырэктара Інстытута беларускай літаратуры і мастацтва ў Нью-Йорку Вітаўта Кіпеля, навуковага супрацоўніка Зоры Кіпель, рэдактара газеты «Беларус» Янкі Запрудніка, бізнесмена Вацлава Мельяновіча пра ўклад эміграцыі ў развіццё беларускай культуры не пусты гук, а рэальнасць, пацвердзіла кніжная выстава, наладжаная Ганнай Сурмач. Найбольш на ёй было кніг са збору Алеся Баркоўскага — вельмі цікавага і самабытнага чалавека, сябра Рады «Бацькаўшчыны», па прафесіі капітана рачнога плавання. У летні сезон ён плавае па рэках Якуціі, на зіму прыязджае ў Мінск і шмат часу і энергіі аддае папаўненню сваёй унікальнай, напэўна, адной з самых багатых на эмігранцкія выданні бібліятэк у свеце.

Да Кангрэса беларусістаў была прымеркавана і выстава беларускіх мастакоў з Ленінграда, як першы крок «Бацькаўшчыны» да шырокага прадстаўніцтва беларускіх мастакоў свету тут, у сталіцы Беларусі. Праўда, з-за недагляду складальнікаў праграмы Кангрэса яна выпала з яе зместу, што сталася адной з прычын, што выстава ўвогуле прайшла міма ўвагі ўдзельнікаў. Зрэшты, тых пасяджэнняў і гаворак было зашмат, каб можна было на што іншае адхіліцца. Але ж пра ўсё гэта не ведалі беларускія хлопцы з горада на Няве, цярпліва чакаючы, калі надыдзе момант афіцыйнага адкрыцця іх выставы. Нарэшце яно адбылося — не тлумнае, але па-чалавечы цёплае, нават арыгінальнае. Асабліва аздобіў яго спеў славутай опернай спявачкі Гулегінай, якая да пераезду на Беларусь выступала на ленінградскай сцэне, асабіста знаёмая з Іванам Чарнякевічам — ці не самым цікавым з пяці мастакоў. Творчы дыяпазон у яго шырокі: тут і габелены, і жывапіс, і шаўкаграфія. Уражвалі развешаныя па ўсёй зале арыгінальна размаляваныя хусткі. А вось сапраўднае знаёмства ўжо не гледача, а чытача з творамі Анатоля Кірвеля наперадзе: на выставе, побач з малюнкамі, былі змешчаны і кароценькія мініяцюры-выслоўі да іх. Выявілася ў гаворцы, што з такіх мініяцюр складзены зборнічак. Знаёмства з ім дазволіла ўбачыць арыгінальнага майстра слова, па манеры ў нечым падобнага да Янкі Брыля, ягонай «Жмені сонечных промняў». Але не пра запазычанне тут ходзіць, а пра жанравую блізасць, ды яшчэ пра чуйнасць да беларускага слова, здольнасць напаўняць фразу значным сэнсам.

Як супольная («Бацькаўшчыны» з мастацкай суполькай «Пагоня») задумвалася выстава карцін, вывешаных на сценах Дома літаратара. Але паколькі «пагонеўцы» фактычна ўзялі ўсю ініцыятыву на сябе, дык, як кажуць, няхай у гэтым ім будзе ўвесь гонар і слава...

Сапраўдным узрушэннем для ўдзельнікаў Кангрэса з'явіўся арганізаваны «Бацькаўшчынай» канцэрт фальклорна-народнага накірунку. Удзельнічалі ў ім ужо добра вядомыя па іншых імпрэзах Згуртавання калектывы «Неруш» і «Крыжачок», індывідуальныя выканаўцы Таццяна Мархель і Генадзь Шары. Вельмі хораша ў па-народнаму яскравае відовішча ўпісаўся дзіцячы ансамбль «Зорачка». Крышку горш, калі ацэньваць па вялікім рахунку, «Салавейкі». Увесь канцэрт успрымаўся адзіным мастацкім цэлым, падпарадкаваным адной задуме і аднаму стылю. Заслуга ў гэтым найбольшая кіраўніка «Крыжачка» Сяргея Клімовіча, які выступаў тут і як танцор у сваім калектыве, і як галоўны рэжысёр усёй вечарыны.

Радасць, якою свяціліся людскія вочы незалежна ад таго, адкуль людзі папрыязджалі і да якой нацыі належаць, яшчэ раз падцвердзіла вельмі простую, як сонца, хлеб і зямля, ісціну, што сапраўдны інтэрнацыяналізм выяўляецца не ў самаадмаўленні і рабскім перайманні чужога, а ў глыбокім і арганічным духоўным самавыяўленні, праз якое якраз і адбываецца яднанне народаў. Нездарма ж ідэя яднання беларусаў з людзьмі іншых нацыянальнасцяў, што прысвяцілі сябе асэнсаванню беларускай культуры ці проста прыхільна ставяцца да нашага народа, выказаная ў прывітальным слове Кангрэса ад «Бацькаўшчыны», была так цёпла сустрэта яго ўдзельнікамі. Гэты прадстаўнічы міжнародны форум засведчыў, што не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі, ва ўсім вялікім цывілізаваным свеце мы маем шмат палкіх прыхільнікаў беларушчыны і гэта з'яўляецца яшчэ адной добрай надзеяй і важкім стымулам нашага нацыянальнага Адраджэння.

**Яўген ЛЕЦКА.**



## Галасы «Званочкаў»

**Калі вы яшчэ не чулі «Званочкаў» — паслухайце, і надоўга запомняцца вам іх чыстыя, празрыстыя і звонкія галасы. Ансамбль, які носіць такое звонкае імя, створаны пры Рэспубліканскім цэнтры эстэтычнага выхавання дзяцей і існуе, як і сам Цэнтр, другі год. У ансамблі — вучні звычайнай школы № 156 г. Мінска. Мастацкі кіраўнік «Званочкаў» — кампазітар Валянціна Сярых.**

**Актыўна прапагандуючы беларускае слова і песню, «Званочкі» зрабіліся блізкімі сябрамі і Беларускага камітэта «Дзеці Чарнобыля» і згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына».**

**В. ШПІЛЕЎСКАЯ,**
**педагог.**

Кампазітар В. Сярых і салісты групы «Званочкі».
Фота Я. МЯЦЕЛІЦЫ.

# ДА НАС ДАЛУЧАЮЦЦА

Берасцейская грамадска-культурная сябрына «Край» на агульным сходзе 30 красавіка 1991 года вырашыла ўступіць у Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» на правах калектыўнага сябра. Просім зарэгістраваць калектыўнае сяброўства сябрыны «Край» у Згуртаванні.

Арганізацыя-сябра — Берасцейская грамадска-культурная сябрына «Край» — поўнасцю прызнае Статут Згуртавання і бярэ абавязак кіравацца ім у працы.

Сябрына «Край», створаная 20 лістапада 1987 года, у сваёй дзейнасці паслядоўна ідзе да мэты — адраджэння беларушчыны на Беларусі.

**Валянціна МАРОЗ,**
**Старшыня сябрыны «Край»,**
**Мікола НОВІК,**
**старшыня агульнага сходу.**

18.04.1991 г.
Грамадзянін Я. Лецка
Старшыня Рады Згуртавання Беларусаў Свету «Бацькаўшчына»
Беларусь, Мінск
вул. Сухая, 4

Вельмі Паважаны грамадзянін Лецка!

Вельмі дзякую і вялікі гонар было для мяне атрымаць ад Вас ліст, у якім Вы запрашаеце мяне прыехаць і ўзяць удзел у першым устаноўчым кангрэсе Міжнароднай Асацыяцыі Беларусаў, якая адбудзецца 25—27-га мая 1991 году ў Менску.

На жаль і з вялікім сумам павінен Вам паведаміць, што з прычыны маёй працяжнай хваробы (мне таксама ўжо больш як 81 год) я не змагу прыехаць да Вас на кангрэс.

Адначасна хачу шчыра пажадаць Вам і ўсей Вашай паважанай арганізацыі і надыходзячаму кангрэсу шмат поспеху на карысць нашай Бацькаўшчыны Беларусі. Калі можна, дык прашу залічыць мяне сябрам Вашай арганізацыі і прысылаць належныя весткі аб падзеях у Вашым Згуртаванні. Абяцаю падтрымліваць Вас заўсёды ўсім чым толькі змагу.

Жыве Беларусь!

З вялікай пашанай да Вас

**Барыс КІТ.**

г. Франкфурт-на-Майне.

Мельбурн. 4.5.1991 г.

Высока Паважаны старшыня Рады Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына»!

На 9-ай сустрэчы беларусаў Аўстраліі, у Адалайдзе, мы мелі нагоду зачытаць Ваша прывітанне на сустрэчу. Удзельнікі сустрэчы вельмі зацікавіліся Вашай паважанай установай і даручылі мне як сакратару звярнуцца да Вас, каб больш падрабязна даведацца аб Вашай упамянутай арганізацыі.

Па-першае, хацелася б мець Вашую Праграму і Статут і наогул мець паясненне, на якім грунце базіруецца ўся Ваша дзейнасць. Будзем рады, калі Вы падашляце нам увесь інструктаж, бо ёсць багата жадаючых уступіць у Вашую паважаную арганізацыю, за што Вам шчыра дзякуем.

Жыве Беларусь.

З пашанай да Вас

**Паўла ГУЗ.**

Янка МОЙСІК:

# «Наша секцыя — быццам маленькае Беларускае консульства пры Святым Пасадзе»



**Супрацоўнік Беларускай секцыі Ватыканскага радыё Янка Мойсік быў адным з замежных удзельнікаў Міжнароднага кангрэса беларусістаў. Было дастаткова імя-прозвішча і першай фразы пры знаёмстве, каб зразумець: гэты сеньёр з Рыма — ніхто іншы, як беластоцкі беларус.**

**— Янка, сваім працаўладкаваннем вы, напэўна, абавязаны польскаму паходжанню Папы?**

— Я б не сказаў, што на Ватыканскім радыё пераважаюць «польскія кадры». Тут працуе каля 500 асоб недзе 45 нацыянальнасцяў. А перадачы вядуцца на 34 мовах свету. Для Савецкага Саюза робіцца 6 праграм: па-беларуску, па-расейску, па-ўкраінску, па-армянску, па-літоўску і па-латышску.

**— Якія мэты ўсіх гэтых праграм?**

— Радыё Ватыкана працуе ўжо шэсць дзесяцігоддзяў, і ва ўсе часы яно не было ў злучцы з нейкімі палітычнымі сіламі. Яно імкнецца быць голасам любові, гуманізму і цярпімасці, лучнасці ўсіх хрысціян. Варта прыгадаць хоць бы тое, як у смутныя гады Другой Сусветнай вайны Ватыканскае радыё было аддадзена да паслуг тых, хто цярпеў з прычыны лютасці вайны. Яно служыла сродкам сувязі людзей, параскіданых па ўсім свеце.

Не ведаю, ці слухаеце вы яго і якое ваша ўяўленне пра яго намеры. Бо, напрыклад, мне, калі я быў сярод землякоў у ЗША, Аўстраліі, даводзілася чуць за сваімі плячыма: вось, маўляў, прыехаў павярнуць нас на каталіцкую веру... (Скажу, дарэчы, што сам я праваслаўны.)

На такія меркаванні мне хочацца адказаць, прывёўшы словы самога Папы Яна Паўла II, які кажа, што «заданне Ватыканскага радыё—зрабіць чутным біццё сэрца Царквы ва ўсіх кутках свету і старацца ўмацоўваць сувязь мясцовых Цэркваў — асабліва тых, якім прыходзіцца існаваць у краінах, дзе няма рэлігійнай свабоды...»

Беручы пад увагу сучаснае становішча Царквы на Беларусі, і ў асаблівасці недахоп святароў, большую частку сваёй праграмы мы аддаём гутаркам на рэлігійныя і маральныя тэмы. Звяртаемся таксама і да культурнай тэматыкі, з асаблівай ўвагай на хрысціянскія карані беларускай культуры. Мы адзначаем усе нашы вялікія святы — такія, як юбілей Францішка Скарыны, ці — цяпер Максіма Багдановіча.

**— Колькі супрацоўнікаў мае ваша секцыя і чым адметна яе жыццё?**

— Скажу адразу, што Беларуская секцыя радыё Ватыкана даволі сталага веку: яна рэгулярна працуе ад 6 студзеня 1950 г. Яе заснавальнікам быў святар лацінскага абраду Пётр Татарыновіч — вялікая постаць у беларускім эміграцыйным жыцці. Доўгі час ён вёў праграмы сам.

Цяпер праграма мае чатырох штатных супрацоўнікаў. І хоць беларусаў у Рыме не так шмат, мы адчуваем на сабе абавязкі быццам маленькага беларускага консульства пры Святым Пасадзе. Мы ўважліва сочым за жыццём Бацькаўшчыны і беларускай дыяспары ў эміграцыі. Калі ёсць якая нагода, адразу інфармуем усе іншамоўныя секцыі пра падзеі на Беларусі. Апошнім часам, калі ў рэспубліцы абудзілася палітычнае жыццё, мы вельмі актыўна прапаноўвалі свае каментарыі і тлумачэнні падзеям для перадач на розныя краіны.

Вядома, мы гуртуемся і ў вольны час. Збіраемся на нядзелях, па святах, спяваем свае песні... Год назад вырашылі стварыць і рымскую суполку «Таварыства беларускай мовы». На яе адкрыцці, дарэчы, прысутнічалі шаноўныя спадары Мальдзіс, Грыцкевіч, Туронак, Кіпелі, айцец Надсан ды іншыя. Мы выдаём свой інфармацыйны бюлетэнь «Хрысціянскія навіны», які сёння мае шмат адрасатаў у Аўстраліі, ЗША, Канадзе, Англіі, Польшчы, Францыі... Але самае каштоўнае, што ён чытаецца і тут, на Бацькаўшчыне. Зазначу, што фінансуе гэтую дзейнасць менавіта Ватыкан, і такім чынам падтрымлівае справу адраджэння беларускай мовы, культуры, рэлігійнасці, прычым не падзяляючы яе на каталіцызм і праваслаўе.

**— Відавочна, у Ватыкане добра разумеюць ісціну: кожны народ хоча размаўляць з Богам на сваёй мове...**

— Так. Возьмем прыкладам абрад святкавання тут вялікіх хрысціянскіх святаў — Каляд і Вялікадня, на якія ў горад з'язджаюцца тысячы і тысячы вернікаў розных нацыянальнасцяў. Папа Рымскі звяртаецца да іх з прамовай - благаславеннем «Urbi et Orbi» — «Гораду Рыму і ўсяму свету», а перад гэтым вітае на шасцідзесяці мовах. Сярод іх гучыць і беларуская...

**— На якіх хвалях «наша слова» з Ватыкана гучыць у эфіры?**

— Беларуская праграма працягласцю 20 мінут перадаецца на кароткіх хвалях 41 і 31 метр у дыяпазоне 7365 і 9755 кГц. Цяпер аб часе. Па Грынвічу — у 19.10 кожнага дня, а таксама паўтараюцца ранкам наступнага ў 5.20. На Беларусі летам гэта будзе адпаведна — 20.10 і 6.20.

**А.Ц.**

# СТАТУТ

## Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына»

**У свой час «ЛіМ» змясціў матэрыял «Бацькаўшчына кліча!» (1990, 12 кастр.) — зварот да суайчыннікаў у сувязі з утварэннем Згуртавання «Бацькаўшчына». У снежні мінулага года Міністэрства юстыцыі БССР зарэгістравала Згуртаванне са сваёй «прапіскай» (220048, Мінск, вул. Сухая, 4; тэл. 23-66-21), сваім разліковым рахункам (700307 код 812 у камерцыйным банку «Беларусь»). «Бацькаўшчына» распачала сваю працу. Пра некаторыя акцыі Згуртавання вы прачытаеце на гэтых старонках. Але для шырэйшага разгортвання нашай дзейнасці патрэбна далейшая, і немалая, дапамога: і арганізацыйная, і маральная, і фінансавая.**

**Друкуем сёння Статут «Згуртавання» і спадзяёмся, што на яго аснове вы, дарагія суайчыннікі, пачнеце ствараць на месцах суполкі «Бацькаўшчыны», рэгістраваць іх у дзяржаўных органах і разгортваць актыўную патрыятычную дзейнасць. Відавочна, патрыятычная ідэя — гэта цяпер самая рэальная сіла, якая можа дапамагчы спыніць распад нацыі, аб'яднаць прадстаўнікоў розных класаў, партый, грамадскіх арганізацый, а ў выніку гэтага — не дапусціць выражнечы, тэрытарыяльнага расчлянення Беларусі, масавага выезду беларускага насельніцтва за мяжу ў выніку прыняцця Закона Вярхоўнага Савета СССР аб уездзе—выездзе з краіны. Урэшце, найперш уласнымі намаганнямі мы зможам прыпыніць і выраджэнне нацыі ад вынікаў Чарнобыля і іншых экалагічных бедстваў.**

**Дык гуртуймася ж — беларусы, насельнікі Беларусі, прыхільнікі беларушчыны! Наш лёс — у нашых руках!**

**УПРАВА ЗГУРТАВАННЯ «БАЦЬКАЎШЧЫНА».**

### 1. Агульныя палажэнні

1. Згуртаванне «Бацькаўшчына» (у далейшым называецца Згуртаванне) з'яўляецца добраахвотнай грамадскай культурна-асветнай супольнасцю беларусаў і сяброў беларускага народа на Бацькаўшчыне і ва ўсім свеце, аб'яднаных агульных мэтай — спрыяць нацыянальнаму адраджэнню Беларусі, аднаўленню яе дзяржаўнасці.

2. Згуртаванне будуе сваю дзейнасць у адпаведнасці з Усеагульнай дэкларацыяй правоў чалавека, іншымі міжнароднымі прававымі дакументамі, Дэкларацыяй аб суверэнітэце Беларусі і дзеючым заканадаўствам, на прынцыпах дэмакратыі, галоснасці, павагі нацыянальнай годнасці ўсіх народаў.

3. Гаспадарчая дзейнасць Згуртавання накіравана на забеспячэнне яго самаакупнасці і ажыццяўляецца з мэтай фінансавання праектаў, праграм і мерапрыемстваў, якія рэалізуюцца ў рамках яго статутных задач.

4. Згуртаванне ажыццяўляе свае мэты і задачы ва ўзаемадзеянні з дзяржаўнымі органамі, прадпрыемствамі, навуковымі і навучальнымі ўстановамі, грамадскімі і іншымі арганізацыямі Беларусі і свету.

5. Статут Згуртавання з'яўляецца асноўным дакументам, які рэгламентуе яго дзейнасць. Змены і дадаткі ў Статут уносяцца па рашэнні Кангрэса або Канферэнцыі прадстаўнікоў Згуртавання.

6. Месцазнаходжанне сядзібы Згуртавання: Беларусь, Мінск.

### 2. Асноўныя мэты і задачы Згуртавання.

— адраджэнне Беларусі як суверэннай дзяржавы, кансалідацыя беларусаў як нацыі, роўнай сярод роўных у сусветнай супольнасці, выхаванне нацыянальнай свядомасці беларусаў;

— спрыянне росту павагі беларусаў да гісторыі свайго народа, яго культуры і мовы, любові да роднай прыроды;

— духоўнае і арганізацыйнае з'яднанне беларусаў, якія пакінулі Бацькаўшчыну па розных прычынах і ў розныя гады, захаванне і паглыбленне іх беларускасці;

— мацаванне дружбы, узаемнай зацікаўленасці, пазнання гісторыі і культуры народаў, сярод якіх жывуць беларусы, мацаванне павагі да людзей іншых нацыянальнасцяў, якія жывуць з беларусамі на іх Бацькаўшчыне;

— заахвочванне навуковых даследаванняў па беларусазнаўстве, вывучэнне ўкладу эміграцыі (беларускай дыяспары) у развіццё навукі, культуры, літаратуры і мастацтва, даследаванне культурных сувязей беларусаў з іншымі народамі;

— актывізацыя беларусаў за межамі Бацькаўшчыны, а праз іх і ўсёй сусветнай грамадскасці ў справе пераадолення вынікаў чарнобыльскай катастрофы і выратавання беларускага народа ад радыяцыйнага вынішчэння;

— спрыянне духоўнаму ўзаемаабмену і ўзаемаўзбагачэнню, натуральным сувязям паміж Беларуссю і іншымі краінамі свету.

### 3. Правы Згуртавання.

У мэтах рэалізацыі сваіх задач Згуртаванне мае права:

— ажыццяўляць культурныя, навуковыя і эканамічныя сувязі ў Беларусі і за яе межамі, наладжваць сувязі з айчыннымі і замежнымі ўстановамі, арганізацыямі, суполкамі і з прыватнымі асобамі;

— ажыццяўляць узаемакантакты дзеячаў культуры, вучоных, спецыялістаў, студэнтаў і навучэнцаў Бацькаўшчыны і замежжа;

— ажыццяўляць навуковую, творчую, культурна-асветную, арганізацыйную дзейнасць, наладжваць канферэнцыі, сімпозіумы, рабочыя сустрэчы, школы, курсы па вывучэнні беларускай мовы, гісторыі і культуры, палітычных праблемах Беларусі, арганізоўваць выставы, фестывалі, спартыўныя спаборніцтвы, фальклорныя святы;

— ажыццяўляць выдавецкую дзейнасць, выпускаць свае газеты і часопісы, навуковую, папулярную, вучэбную, рэкламную літаратуру, мець уласную паліграфічную базу;

— праводзіць гаспадарчую дзейнасць, ствараць матэрыяльную базу Згуртавання, будаваць, набываць, валодаць і распараджацца як у Беларусі, так і за яе межамі рухомай і нерухомай маёмасцю;

— быць заснавальнікам стыпендый, фондаў, прадпрыемстваў, установаў, арганізацый і кааператываў;

— ажыццяўляць дабрачынную дзейнасць;

— уступаць у дагаворныя адносіны з дзяржаўнымі, кааператыўнымі, грамадскімі арганізацыямі, з асобнымі грамадзянамі;

— уступаць у асацыяцыі і аб'яднанні для рэалізацыі мэтаў і задач Згуртавання.

### 4. Сяброўства ў Згуртаванні.

1. Прыём у склад Згуртавання ажыццяўляецца з вуснай заявы грамадзяніна, а супольныя сябры прымаюцца па заяве, якая выказвае волю дадзенай суполкі.

(Працяг на стар. 10).

# „Вожыку“ — 50

Вось і дажыўся наш «Вожык» да пяцідзесяці. Нарадзіцца яму дапамагло вялікае людское гора — вайна. Калі да рэвалюцыі ў Беларусі было аж чатыры сатырычна-гумарыстычныя выданні, то пасля ж яе — ніводнага. Беларускаму народу, як і іншым народам-братам і сёстрам было загадана толькі «ликовать», а калі і смяяцца, дык толькі ад найвялікшага шчасця, якое, вядома, згодна загаду было толькі ў нас.

І вось вайна! Страшная бяда, страшнае гора. А, як кажуць, калі топішся, дык і за брытву ўхопішся. І партыя ў асобе бацькі ўсіх народаў ухапілася за вякамі выпрабаваную брытву. І ў прыфрантавым Гомелі 5 ліпеня 1941 года нарадзілася газета-плакат «Раздавім фашысцкую гадзіну». Усе, ацалелыя пасля трацкісцкай, нацдэмаўскай кампаніі таленты, прыйшлі ў газету. І Янка Купала, і Якуб Колас, і Пятрусь Броўка, і Пімен Панчанка, і Кузьма Чорны, і Максім Танк... Выявілася, што не загублены і генафонд мастакоў-карыкатурыстаў. Славуты малюнак на першай вокладцы намаляваў юны мастак Віталь Букаты. З пэндзлем у руках пайшлі на шалёнага ворага Заір Азгур, Анатоль Волкаў. Пётра Красільнікаў, Мікола Гурло, Валянцін Ціхановіч, Сяргей Раманаў і многія іншыя.

Калі фашысцкая гадзіна была раздаўлена, усе афіцыйныя і неафіцыйныя ўлады зразумелі, што сатыра і гумар сапраўды грозная зброя і паставілі перад ёю даволі сціплую задачу — цягнуць за вушка ды на сонейка заганы нашага жыцця. А яны, як сведчыць гісторыя — перажыткі капіталістычнага мінулага — у нас былі. І шкодзілі трыумфальнаму шэсцю да светлай будучыні. Таму ў 1945 годзе газета-плакат была перахрышчана ў часопіс «Вожык» — несці службу сціплага, але калючага санітара.

І «Вожык», на колькі яму было дазволена, добра спраўляўся са сваёй задачай, не даючы спакою розных масцей марнатраўцам, абібокам, п'яніцам, махлярам, бюракратам.

У час перабудовы «Вожык» атрымаў не толькі другое дыханне, але і другую маладосць. Стаў не толькі санітарам, але і задзірлівым, смелым барацьбітом. З гэтымі сучаснымі якасцямі ён і сустракае свой юбілей.

Прапаную чытачам «ЛіМа» некалькі нядаўніх і даўніх вожыкавых «іголак».

Іван СТАДОЛЬНІК,
загадчык аддзела літаратуры
часопіса «Вожык».

## Кароткія жарты

### ПА ПРЫМАЎЦЫ

— Чулі? Нашы пажарнікі арганізоўваюць духавы аркестр.

— Зусім зразумела. Яны прайшлі агонь і ваду, а зараз хочуць прайсці медныя трубы.

### ЗВЫШ ДАЛІКАТНАСЦІ

— Я вас, Сяргей Пятровіч, сёння бачыла ў сне: вы прайшлі каля мяне і не прывіталіся.

— Выбачайце, Мар'я Іванаўна, я, мабыць, вас не заўважыў...

### СУПАКОІЎ

— Паслухайце, ваш чамадан ледзь трымаецца на паліцы, ён зараз зваліцца на мяне.

— Не хвалюйцеся. У ім ніякіх шкляных рэчаў няма, не паб'юцца.

### ТРАПІЛА КАСА НА КАМЕНЬ

Доктару-псіхіятру шавец прынёс адрамантаваныя боты.

— Колькі за рамонт? — пытае доктар.

— Восемдзесят рублёў.

— Восемдзесят рублёў? — узлаваўся доктар,— за адну латку? Ды вы звар'яцелі! Вы псіхічна хворы. Вас трэба агледзець. Хадзем са мною ў кабінет.

Шавец, збянтэжаны строгім голасам доктара, пайшоў за ім.

Доктар закончыў агляд і сказаў:

— Можаце быць спакойным. Вы нармальны чалавек. Вашы мазгі ў парадку. Давайце разлічвацца. Я вам, здаецца, вінаваты восемдзесят рублёў?

— Так, так,— павесялеў шавец.

— А за агляд хворага я бяру сто рублёў, так што вы павінны даплаціць мне дваццаць.



Апошні раз я да вас зайшоў, доктар!

Малюнак В. КЛЮЧНІКА.




Малюнак А. ГАРМАЗЫ.

## ВАКОЛ ЛІТАРАТУРЫ І ЛІТАРАТАРАЎ

### «СПІНОЗА»

Да Максіма Танка, калі ён быў рэдактарам «Полымя», аднойчы ў кабінет уварваўся разгневаны Сцяпан Майхровіч і, скардзячыся на рэцэнзента, якому быў пасланы на рэцэнзію яго артыкул, пачаў тыцкаць пальцам на нейкую заўвагу:

— Во, пачытайце, што ён піша... А гэта ж не мае словы, а Спінозы! — крычаў Сцяпан Майхровіч.

— Супакойся,— даволі ветліва рэагаваў на крык Сцяпана Майхровіча Максім Танк.— Вось калі б гэты рэцэнзент нешта напісаў на тваёй спінозе, тады б можна было і пакрычаць. А то — на паперы!

Сцяпан Майхровіч пaглядзеў на Максіма Танка — і яго злосць, гнеў дзе і падзеліся...

### ЧЫТАЦКІЯ ФАРМУЛЯРЫ

На адным са сходаў у Саюзе пісьменнікаў даволі рэзка крытыкаваліся раманы Уладзіміра Карпава...

Наступны прамоўца, выйшаўшы на трыбуну, адрэагаваў на рэпліку так:

— На жаль, у чытацкіх фармулярах не адзначаюць, колькі чытачоў вярнула кнігі, так і не дачытаўшы іх да канца...

### ЛЕПШ НЕ НАПІША...

Прымалі ў Саюз пісьменнікаў не так маладога, як бяздарнага аўтара. Здаецца, былі выбраны ўсе аргументы «за» і «супраць». І раптам падняўся Эдуард Валасевіч.

— Таварышы! — звярнуўся ён да паважанага сходу. — Не разумею, навошта адкладваць гэтую справу надалей? Усё адно ж гэты паэт лепш ужо не напіша.

Прынялі...

### НЕ ТРЭБА СМЯШЫЦЬ...

Алесь Ставер прынёс у рэдакцыю часопіса «Полымя» свой чарговы твор. Падсеўшы да загадчыка аддзела, каб, мабыць, яму спадабацца, падлесціць, пачаў гаварыць:

— Ты — вялікі, і я — вялікі, ты любіш народ, і я — люблю. І не трэба смяшыць каго б там ні было тым, што недастойна нас...

Загадчык аддзела моўчкі выслухаў Алеся Ставера, не перапыняў яго. Потым прачытаў твор і, калі Алесь Ставер прыйшоў зноў у рэдакцыю, пасадзіў яго побач з сабою і паўтарыў яму слова ў слова тое самае, што казаў некалькі дзён таму назад сам Алесь Ставер:

— Ты — вялікі, і я — вялікі, ты любіш народ, і я — люблю. І не трэба смяшыць каго б там ні было тым, што недастойна нас...

І вярнуў Алесю Ставеру яго твор.

Запісаў
Барыс САЧАНКА.

Рыгор БОХАН

## СКАРГА

Мятла на ўсе узроўні
шле паперы:
«У нас на месцы з
леташняй пары
Паўсюды смецце на двары.
Прыміце тэрмінова меры!»

## СЛУП

«Заменім слуп,— сказаў
манцёр манцёру,—
Падгніў, заваліцца,
напэўна, скора».
Другі зірнуў на правады:
«Стрывае,
Бо сувязі, глядзі, якія мае».

## Жарт

Маладых паэтаў кадры
Намякаюць далікатна:
«Шмат вы рыфмаў настругалі,
Бэз увесь паабстрыгалі.
Вам пара закончыць песні
І падбаць адносна пенсій».
А якая там пара —
Іскры сыпяцца з пяра.
Чуеш, — іскры, не пясок,
Сад зялёны не пасох!
Сіні верас, сіні верас,
Нам дзяўчаты покуль вераць.
А як верыць перастануць —
На улік пенсійны станем.
Будзем трутнямі гудзець,
Будзем з зайздрасцю глядзець,

Пімен ПАНЧАНКА

Як чарнявы падшывалец
Прыгажуню ў сад вядзе.

●

Абагачальныя фабрыкі
Патрэбны не толькі рудзе.
Абагачальныя фарбы
Патрэбны мастацкай нудзе.
І новай кінакарціне
З сюжэтам занадта паношаным,
І худасочнай вітрыне,
І кнізе, самай найноўшай.
Выкладчыкам і дакладчыкам
Трэ выбіць не раз
З тэзісаў раскудлачаных
Пустую пароду фраз.
Самі сябе падправім,
Каб кожны быў свецел і дуж.
Тады заваюем права
На ўзбагачэнне душ.

Максім ТАНК

## У доме творчасці і адпачынку

Кожны дзень пад гітару пяе
Нейкая Дэздэмона
Пятроўна,
А зайздросны Атэла яе
Ноччу звоніць па тэлефоне.

Класікі граюць шумна ў
«казла»,
Жонкі іх абмяркоўваюць
творы.
Пад акном — хрыплы
лямант асла
Ды злуецца бяссоннае мора.
За сцяною — гармідар, садом.
Дзеляць славу, спраўляюць
памінкі!
І які чорт назваў гэты дом
Домам творчасці і адпачынку!

## Парада

Я заўсёды пакрыўджаным
раю,
Непрызнаным геніям, ныцікам:
Хутчэй станавіцеся
класікамі,
Калі перашкаджаюць вам
крытыкі.

Тады ваш кожны ляпсус
Абгрунтаваны будзе
У нейкай дысертацыі
Ці ў тэарэтычным
талмудзе.

Чаму ж сам хаджу ў
пачынаючых,
Хоць мог бы пісаць пад
Ігрэка!
Не люблю цішыні, прызнаюся,
І цытатазалізанай лірыкі.




Малюнак П. КОЗІЧА.

Уладзімір ПРАВАСУД

## Хрысціны

На хрысціны да Цвыркуноў сабраліся амаль усе родзічы. Шчаслівыя бацька і маці радасна паказалі гасцям, як яны гаварылі, найлепшы свой твор мастацтва. «Твор мастацтва» ляжаў у калясцы, смактаў соску і ціха пасопваў носам. Потым усе селі за стол. Першы, як і належыць, слова ўзяў кум:

— Мы тут вось параіліся з палавінай і рашылі падараваць хрэсніку чаргу на мэблю, на якую самі нядаўна запісаліся.

— А мы — чаргу на аўтамашыну,— горда сказаў дзед з бацькавага боку.

— Мы — чаргу на кааператыўную кватэру,— адказала на гэта бабуля з боку маці.

— Мы — чаргу на тэлевізар...

— А мы — чаргу на тэлефон...

— Чакайце, — паднялася цётка, што прыехала на ўрачыстасці з вёскі,— я нешта не разумею: пры чым тут усе гэтыя чэргі?

— Усё правільна,— супакоілі яе.— Пакуль наш карапуз падрасце, мажліва, і чарга на ўсё гэта падыдзе.

рызму напісана нямала. Гэта перш за ўсё скасаванне уніі і гвалтоўны зварот большасці беларусаў у праваслаўе. Мураўёў унёс важкі ўклад у гэтую справу, выдаткаваўшы вялізныя сродкі на збудаванне праваслаўных храмаў і забеспячэнне праваслаўных святароў. Але нечакана ўзнікла пытанне — на якой мове святары павінны несці да народа слова Божае? Мураўёў вырашыў адназначна — на рускай. Але большасць насельніцтва і саміх святароў яе не ведалі.

Каталіцкае духавенства звярнулася ў Свяцейшы Сінод з прашэннем дазволіць яму весці набажэнства на беларускай мове. Обер-пракурор Сінода запатрабаваў даць заключэнне па гэтым пытанні архіепіскапа Мінскага і Бабруйскага Міхаіла Галубовіча. Цікава, што Галубовіч быў раней уніяцкім святаром і рашуча выступаў за захаванне уніі. Мураўёў, займаючы ў той час пасаду мінскага губернатара, выклікаў Галубовіча да сябе. Пасля аўдыенцыі той раптам стаў рашучым ворагам уніятаў і барацьбітом за праваслаўе. І вось гэты іуда і здрайца свайго народа даводзіць непатрэбнасць і шкоднасць беларускай мовы: «В состав Белоруссии входят губернии Витебская, Могилевская и Гродненская, часть Виленской и Минская. В двух первых замечаются поднаречия смешанные: на окраинах смежных с внутренними губерниями простонародный говор приближается к русскому. В Минской губернии части Речицкого уезда и в Мозырьском говорят полумалороссийским, а в пинском — полесским, т. е. грубым малороссийским наречием, гродненской губернии в уездах Брестском, Кобринском, Пружанском и Бельском говорят по-малороссийски, в гродненской понад Неманом по-литовски, в Сокольском и Белостокском уездах поселены мазуры, говорят польским жаргоном. При таком разнообразии наречий которому дать преимущественно для перевода на оный проповедей? Выбор трудно сделать и потому, что говорящие по-малороссийски не терпят белорусского языка и наоборот. Белорусский язык не обработан, на нем невозможно выразить отвлеченных мыслей, евфония его весьма неприятна, зачем же его ставить яна подмостки литературного наречия, когда неуклонною целью правительства должно быть обобщение чисто русского языка и когда к тому способствуют открытые народные церковные и городские училища. Да и теперь простой народ достаточно хорошо понимает русский язык. К тому же в белорусский язык в продолжение крепостного состояния вкралось много польских слов и оборотов. Я протестовал противу печатания окружным попечителем кн. Ширинским-Шахматовым на белорусском языке книги для чтения в народных училищах и теперь протестую противу перевода на оный церковных проповедей».

Галубовіч выказаў характэрнае для ўсіх «мураўёўцаў» разуменне беларускай мовы. Нават такі рэакцыянер, як кн. Шырынскі-Шахматаў, быў раскрытыкаваны за дазвол надрукаваць дзіцячую кніжку на беларускай мове. Магчыма, што гэта паслужыла адной з прычыны яго адстаўкі. Цікава, што пазней, у 1867 годзе, невядомы аўтар прапанаваў у часопісе «Современная летопись» выдаваць у Беларусі народны часопіс на беларускай мове, але каб яго кіраўнікі не былі чыноўнікамі. Паслядоўнік Шырынскага-Шахматава на пасадзе папячыцеля вучэбнай акругі І. Карнілаў абурыўся: «Да кроме чиновников и священников кто же здесь русские люди? Вне службы здесь русских людей нет. Что нужнее народу: молитвенники, катехизис, крестики и прочее или летучие листки (г. зн. часопіс)».

Дыскусія аб мове выкладання ва ўстановах народнай адукацыі вялася да 1863 года. Правадыр Віленскага дваранства сапраўдны тайны саветнік Дамейка лічыў, што выкладанне павінна весціся на дзвюх мовах: «Достаточно принять за правило, чтобы в народных школах воспитанники обучались на господствующем в каждой местности диалекте простонародья, а в гимназиях — на языке польском, т. е. на языке нашей цивилизации, на языке мышления, молитвы и разговора всего местного просвещенного населения, а в особенности дворянства».

Пагардлівыя адносіны мясцовай шляхты да беларускай мовы і захапленне пальшчызнай былі лепшай дапамогай «мураўёўцам» у іх справе. Мясцовыя паны называюць беларускую мову дыялектам, што дапамагала Мураўёву і ягоным паплечнікам праводзіць русіфікацыю. Шырынскі-Шахматаў піша міністру народнай адукацыі графу Пуцяціну 2 верасня 1861 года: «Чрезвычайно важный вопрос для начальных училищ составляет язык, на котором должна быть преподаваема грамота. В губерниях же Виленской, Гродненской и Минской большая часть сельского населения говорит наречием белорусским, поэтому и народные училища должны быть здесь чисто русскими».

Цікавая логіка, ці не так? А пасля паўстання 1863 года аб беларускай мове ў сферы асветы і адукацыі ўжо не магло быць нават гаворкі. Больш таго, Мураўёў палічыў, што ў Паўночна-Заходнім краі зашмат гімназій і зачыніў Панявежскую, Кайданскую і шэраг іншых. Увогуле колькасць вучняў па Віленскай вучэбнай акрузе паменшылася з 4123 чалавек у 1862 годзе да 2585 у 1866 годзе. Гэта было злачынствам супраць беларускага народа. Акрамя таго, усе мясцовыя настаўнікі замяняліся рускімі, якіх Мураўёў прывабліваў з расійскіх губерній. Вышэйшым загадам міністра адукацыі ад 3 ліпеня 1864 года за № 32 настаўнікамі ў гімназіях і народных вучылішчах маглі быць толькі праваслаўныя або немцы з Прыбалтыкі. Але, як кажуць, навучы дурня маліцца, дык ён і лоб разаб'е. Папячыцель Карнілаў на падставе гэтага загаду прапанаваў Мураўёву наогул не дапускаць мясцовых вучняў да іспыту на пасаду настаўніка. Тут нават сам Мураўёў прызнаў «неудобным не допускать лиц католического вероисповедания к означенному испытанию...» Было загадана прымаць у вышэйшыя навучальныя ўстановы вучняў каталіцкай веры не болей чым 10 працэнтаў ад агульнай колькасці вучняў. Гэта палітыка прывяла да таго, што адукацыя ў Беларусі ўпала на незвычайна нізкі, у параўнанні з папярэднім, узровень (у пачатку XIX стагоддзя беларускія губерні і па ўзроўню адукацыі займалі адно з першых месц у імперыі). Колькасць народных вучылішчаў павялічылася, але выкладанне ў іх было прымітыўным і на незразумелай для дзяцей мове. Гэта надоўга замарудзіла развіццё інтэлектуальных сіл нашага народа і каштавала яму вялікіх ахвяр.

І ўсё ж такі «мураўёўшчына» не дасягнула сваёй стратэгічнай мэты, нягледзячы на тое, што на яе працаваў магутны бюракратычны апарат вялікай імперыі, яе ваенная і ідэалагічная машыны. Беларускі народ, які зневажалі, якім пагарджалі, імкнуліся прымусіць забыць родную мову і гісторыю, перамог у гэтай барацьбе. І як малады зялёны парастак прабіваецца праз асфальт, так нацыянальная свядомасць беларусаў прабівалася праз цемру ідэалагічных міфаў, хлусні. Мураўёў-вешальнік лічыў, што каб захаваліся заваёвы яго палітыкі, трэба, «чтобы главные деятели и правительство не увлекались общими европейскими идеями гуманности». Але Мураўёў і падобныя да яго забыліся, што яшчэ ёсць народ, які вышэй палітычных амбіцый і ідэалагічных дактрын. Аб гэтым павінны памятаць тыя, хто сёння, як чарнасоценны дзеяч Жыркевіч у 1911 годзе, гатовы ўсклікнуць: «Ах, Муравьёва бы сюда к нам, в Вильну... Муравьёва, хоть на несколько лет!!!»

**Сяржук ТОКЦЬ,**
**студэнт 4 курса гістфака ГрДУ.**

---

**Беларускі грэка-каталіцкі абрад. На тэрыторыі Заходняй Беларусі, у прадмесці Слоніма Альбярціне быў закладзены беларускі уніяцкі цэнтр, а ў Друі — кляштар айцоў Марыянаў Усходняга абраду. Асноўныя надзеі ў справе адраджэння уніяцтва ўскладаліся на беларусаў-каталікоў, нашчадкаў грэка-каталіцкіх вернікаў, не пажадаўшых далучыцца да РПЦ у 1839 г., а таксама пакінуўшых праваслаўе пасля 1905 г. І трэба заўважыць, не беспаспяхова. Так, на Беларусі большасць падзвіжнікаў уніяцтва ў нашым стагоддзі паходзіла з каталіцкага асяродка, а з 5 тысяч уніятаў на Беларусі ў 1943 г. больш 70% складалі былыя рыма-каталікі. Ды і тэрміналогія ўжывалася каталіцкая: не манастыр, а кляштар; не епіскап, а біскуп; не літургія, а імша — што з'яўляецца адметнай рысай заходняй плыні ў грэка-каталіцтве.**

**Адной з самых складаных спраў адраджэння беларускага уніяцтва было аднаўленне абрадавасці. На падставе старажытных службнікаў быў распрацаваны унікальны па форме грэка-каталіцкі абрад. Захаваўшы традыцыйна-заходні тып набажэнства, уніяцкія святары ўнеслі ў яго шэраг чыста візантыйскіх элементаў, часткова страчаных у канцы XVII — пачатку XVIII ст. Гэты абрад выгадна адрозніваўся ад рыма-каталіцкага, што было асабліва істотна пры актыўных спробах дзяржаўных уладаў Польшчы паланізаваць беларусаў з дапамогай касцёла. Але значна адрозніваўся абрад і ад рускага праваслаўнага, што, на думку стваральнікаў, павінна было абараніць Усходнюю Беларусь ад русіфікацыі, якую праводзіла РПЦ.**

**Палітычны ўціск прымусіў спыніць дзейнасць грэка-каталіцкай царквы на Беларусі. З 1944 г. яна існуе толькі на Захадзе ў асяродку беларускае эміграцыі, але на сённяшні дзень там служыць толькі некальні святароў. Таму невядома, ці захаваліся абрадавыя распрацоўкі слонімскіх і друйскіх уніятаў, ці засталіся толькі згадкі аб іх.**

Такім чынам, беларускі грэка-каталіцкі абрад заўсёды фармаваўся на аснове зліцця **заходніх і ўсходніх** хрысціянскіх традыцый, пры гэтым заходнія (каталіцкія) элементы адыгрывалі ў ім дамінантную ролю.

Зусім іншая гісторыя ўкраінскай грэка-каталіцкай царквы.

Украіна прыняла ўмовы Берасцейскай уніі амаль на стагоддзе пазней за Беларусь і пры абсалютова іншых гістарычных умовах. Хоць уніяцкі мітрапаліт Рэчы Паспалітай і зваўся Кіева-Галіцкім, але ён ніколі рэальна не распаўсюджваў сваю ўладу на Кіеў ды Усходнюю Украіну. Пачынаючы з XIV ст. рэзідэнцыяй заходнеправаслаўных, а потым уніяцкіх мітрапалітаў ВКЛ быў Навагрудак. Жылі мітрапаліты і ў Вільні, але ніколі ў Кіеве альбо іншым горадзе Украіны. Тытул «Кіеўскага і Галіцкага» быў толькі традыцыяй, якая засталася ад часоў Кіеўскай Русі, больш таго, на Украіне уніяцтва ніколі не было масавым веравызнаннем, да грэка-каталіцтва належала ўсяго толькі некалькі працэнтаў ад агульнае колькасці ўкраінцаў-хрысціян. Усходняя Украіна так ніколі і не прыняла уніі. Пры гэтым трэба ўлічваць, што ў Заходняй Украіне жылі і ўкраінцы-праваслаўныя, украінцы-пратэстанты і каталікі. Не быў распаўсюджаны і рыма-каталіцызм, які заўсёды лічыўся «польскай верай». І толькі пагроза падпасці пад юрысдыкцыю Маскоўскага праваслаўнага патрыярха падштурхнула частку патрыятычнага святарства Галіцыі (Заходняя Украіна) прыняць унію з Рымам.

Такое становішча тлумачыцца гісторыяй Украіны. Калі на Беларусі спрадвечным ворагам быў «маскаль», то на Украіне — «лях». Казацкія загоны неаднойчы выступалі на баку Масквы супраць «палякаў» — Радзівілаў, Хадкевічаў, Пацаў, Астрожскіх, Сапег. Асноўную пагрозу тыя ж галічане бачылі ў паланізацыі праз рыма-каталіцкі касцёл, а не ў русіфікацыі, бо яны ніколі не належалі Расійскай імперыі (пасля падзелу Рэчы Паспалітай гэтыя землі адышлі да Аўстра-Венгрыі, а з 1921 па 1939 г. знаходзіліся ў складзе Польскай дзяржавы).

Неабходнасць захавання сваёй царквы, а з ёй і ўкраінскай нацыі ў заходнім каталіцкім асяродку абумовіла далучэнне ўкраінскай грэка-каталіцкай царквы да ўсходняй плыні уніяцтва. У традыцыйных рысах святароў, набажэнстве, абсталяванні храмаў — бачны амаль чысты візантыйскі абрад. Толькі падпарадкаванне Папе Рымскаму ды догмат аб сыходжанні святога духу ад Бога-Сына адрозніваюць Украінскую грэка-каталіцкую царкву ад Украінскай праваслаўнай аўтакефальнай царквы. Абедзве з'яўляюцца нацыянальнымі па традыцыях, мове набажэнства, абрадавасці, і цяперашнія спрэчкі паміж імі — справа часовая. Нават негатыўнае стаўленне часткі праваслаўных вернікаў Украіны да РПЦ выклікана хутчэй палітычнымі падставамі, чым рэлігійнымі. Прыклад гэтаму — падзеі 1946 г. Пасля ліквідацыі Украінскай грэка-каталіцкай царквы сталінскімі ўладамі вернікі не перайшлі ў каталіцтва, як гэта было ў XIX—XX стст. на Беларусі, а заставаліся ва ўлонні РПЦ да выхаду уніяцкай царквы з падполля ў 1988—1989 гг.

Як бачым, умовы развіцця уніяцтва на Беларусі і Украіне былі абсалютова розныя, адсюль — розныя традыцыі і абрадавасць. **Трэба ўлічваць і тое,** што з 1839 г. Кіева-Галіцкая мітраполія ахоплівала толькі Галіцыю, а цэнтрам яе стаў Львоў. Сёння там існуе поўная царкоўная структура на чале з мітрапалітам Уладзімірам, ёсць свае семінарыі і манаскія ордэны. На Беларусі пакуль няма нічога, нават дастатковай колькасці святароў (іх толькі двое на ўсю рэспубліку), таму падпарадкаванне беларускіх уніятаў мітрапаліту Уладзіміру нясе ў сабе не аднаўленне сваёй гістарычнай грэка-каталіцкай абрадавасці, а з ёй і ўсёй беларускай уніяцкай культуры — яно нясе ў сабе перайманне чужой нам заходнеўкраінскай. Ці будзе ад гэтага плён для адраджэння менавіта беларускай хрысціянскай культуры? Ці патрэбна паспешліваць у пабудове царкоўных структур ды ўсталяванні кананічных сувязяў? Мяркуйце самі.

**С. ГОРБІК.**

---

# Міхась РУДКОЎСКІ



7 ліпеня на 56-м годзе жыцця пасля цяжкай хваробы памёр вядомы беларускі паэт Міхась Рудкоўскі.

Міхаіл Міхайлавіч Рудкоўскі нарадзіўся 17 красавіка 1936 года ў вёсцы Востраў Ганцавіцкага раёна Брэсцкай вобласці ў сялянскай сям'і.

Закончыў Пінскае педагагічнае вучылішча, працаваў у Кукаўскай сямігодцы, літаратурным супрацоўнікам ганцавіцкай раённай газеты «Сялянская праўда». Завочна скончыў філалагічны факультэт Брэсцкага педагагічнага інстытута імя А. С. Пушкіна. Дваццаць гадоў аддаў працы рэдактарам літаратурна-драматычных і музычных перадач Брэсцкай студыі тэлебачання.

З першымі вершамі Міхась Рудкоўскі выступіў у друку ў 1958 годзе. Ён аўтар зборнікаў лірыкі «Першыя вёрсты», «Сінія брады», «Позвы», «У краі тым...», «Векавечная бацькаўшчына», «Трыгор'е», «Засцярога», «Залатазвон». У выдавецтве «Мастацкая літаратура» падрыхтавана да друку кніга выбраных твораў паэта.

Міхась Рудкоўскі з пакалення пісьменнікаў, чые дзіцячыя гады прыпалі на ваеннае ліхалецце. Таму значнае месца ў яго творчасці займала тэма вайны, усенароднага гора і подзвігу. Лірыка Міхася Рудкоўскага авеяна журботнай рамантыкай, пяшчотай і дабрынёй. Паэт працаваў у жанры балады, санета, трыялета, кароткай паэмы. Уклад яго ў беларускую лірыку значны. Плённа працаваў Міхась Рудкоўскі і ў галіне перакладу. Перакладаў з рускай, украінскай і польскай моў.

Перастала біцца сэрца шчырага паэта. Памяць пра Міхася Рудкоўскага назаўсёды захаваецца ў сэрцах тых, хто працаваў разам з ім, ведаў яго.

**Саюз пісьменнікаў Беларусі.**

---

## АБ'ЯВА

**БЕЛАРУСКАЯ**
**ОРДЭНА ДРУЖБЫ НАРОДАЎ**
**ДЗЯРЖАЎНАЯ КАНСЕРВАТОРЫЯ**
**ІМЯ А. В. ЛУНАЧАРСКАГА**

**АБ'ЯЎЛЯЕ КОНКУРС**

на замяшчэнне вакантных пасад прафесарска-выкладчыцкага складу (для тых, хто мае мінскую прапіску)

— кафедра драўляных духавых інструментаў

прафесар па класе фагота—1

— кафедра агульнага фартэпіяна

загадчык кафедры (узрост не старэй за 65 гадоў)—1

— кафедра фізічнага выхавання
старшы выкладчык—1

— кафедра баяна-акардэона
дацэнт—1

— кафедра грамадскіх навук
ст. выкладчык—1

— кафедра агульнага фартэпіяна
ст. выкладчык—1.

Тэрмін падачы заяў—адзін месяц з дня апублікавання.

Заявы і дакументы згодна Палажэнню аб конкурсах накіроўваць на імя рэктара на адрас: 220600 г. Мінск, вул. Інтэрнацыянальная, 30. Даведкі па тэл.: 27-49-42, 26-06-70.

**ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ**

# Музею Тарашкевіча быць у Радашковічах



Блізіцца сотая гадавіна з дня нараджэння Браніслава Тарашкевіча. Ужо нават створаны па ініцыятыве Вярхоўнага Савета рэспублікі юбілейны камітэт.

Стогадовы юбілей — сур'ёзны повад для таго, каб узважыць і сказаць услых сабе, суседзям, а мо і свету, кім быў гэты чалавек для нас, які ўклад зрабіў ён у беларускую навуку, культуру, духоўнасць. А заадно і адказаць сабе на заўсёды, на жаль, нялёгкае для нас пытанне: ці ведаем спадчыну, запавешчаную нам, наколькі разумна ёю распараджаемся і (о, маральны асялок) якая наша рэальная мера ўдзячнасці яе адышоўшаму творцу.

Яго жыццёвы час быў гранічна спрасаваны. У дваццаць пяць гадоў Тарашкевіч — аўтар першай граматыкі беларускай мовы. Дзякуючы яму да пазнання роднага слова, а гэта многім беларусам адкрыла шлях да свайго народа, да рэалізацыі сябе як асобы, далучылася не адно пакаленне суайчыннікаў.

Дваццацішасцігадовы Тарашкевіч — адзін з заснавальнікаў Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі, праграма якой і сягоння сведчанне шырокага сацыяльна-палітычнага падыходу, клопату за дастойную будучыню свайго народа і рэальнае месца яго ў агульначалавечай сям'і.

У трыццаць год Тарашкевіч — лідэр беларускага парламенцкага прадстаўніцтва ў найвышэйшым органе Польскай Рэспублікі сойме.

Яшчэ ніколі датуль (пачатак 20-х гадоў) ніхто з высокай дзяржаўнай трыбуны так кампетэнтна і мужна не бараніў жыццёвыя інтарэсы беларускага селяніна, рабочага і інтэлігента. Соймавыя выступленні, прамовы Браніслава Тарашкевіча ў свой час — школа нацыянальнай свядомасці, самапавагі народа, а сёння — прыгожы помнік беларускай грамадскай думкі першай чвэрці нашага стагоддзя.

Найбольшым творам Тарашкевіча як палітыка, дзеяча вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі была стотысячная Беларуская сялянска-работніцкая грамада. У сярэдзіне 20-х не было ва ўсёй Еўропе такой масавай радыкальнай сялянскай партыі.

У трыццаць пяць год пачалася турэмная адысея Браніслава Тарашкевіча. Аднак турэмную камеру ў буржуазнай Польшчы беларускі вучоны, палітык еўрапейскай вядомасці здолеў ператварыць у поле змагання і незгасальнай творчасці. У астрогах Грудзёндза, Вронак, Горадня ён стварае новы варыянт «Беларускай граматыкі», адпаведны заходнебеларускім умовам, і здзяйсняе аграмадністую працу па перакладзе на мову свайго народа шэдэўраў сусветнай літаратуры — «Іліяды» Гамера і «Пана Тадэвуша» Міцкевіча.

У сорак адзін год Тарашкевічу нарэшце ўдаецца вырвацца з польскіх турмаў. У парадку абмену палітзняволенымі паміж СССР і Польшчай ён, горача вітаны як нязломны барацьбіт за высокія гуманістычныя ідэалы, дзеяч не толькі беларускага, але і міжнароднага вызваленчага руху, прыязджае ў Мінск.

Неяк здарылася, што палітыка і палітыкі цяпер наглуха адгарадзілі яго, вучонага-філолага, акадэміка АН БССР (яшчэ ў канцы 1928 г. пры заснаванні Беларускай Акадэміі навук ён, як прызнаны мовазнавец, быў абраны яе правадзейным членам), ад навукі. Давялося адразу ехаць у Маскву, дзе яму было прызначана месца працы ў заснаваным Камінтэрнам Міжнародным аграрным інстытуце. Адзін час Тарашкевіч загадваў аддзелам Польшчы і Прыбалтыкі гэтага інстытута. Абагульняў вопыт аграрных рухаў у замежных краінах, а паралельна рыхтаваў да выдання ў Белдзяржвыдавецтве «Іліяду». Калі разгарэлася грамадзянская вайна ў Іспаніі, душой памкнуўся туды, каб бараніць рэспубліку ад таталітарызму мяцежнага Франка. Здзейсніць мару аб зямлі для сялянства, на гэты раз не заходнебеларускага, а іспанскага, Тарашкевічу не давялося. Згінуў пад час рэпрэсій 1937—1938 гг., што жалезным катком пракаціліся па краіне, у якую паверыў, за якую так стойка змагаўся ў Польшчы.

Не сказаць, што за час, які прайшоў ад пасмяротнай рэабілітацыі акадэміка Тарашкевіча (1957 г.), нічога не зроблена для вяртання добрага імя беларускага вучонага і палітыка народу. У Мінску і Варшаве апублікаваны дзве манаграфіі, прысвечаныя жыццю і дзейнасці Б. Тарашкевіча. Асобна і, галоўнае, нарэшце аб'ектыўна, навукова даследавана (зноў жа ў СССР і ў Польшчы) справа жыцця Тарашкевіча — Беларуская сялянска-работніцкая грамада. Тое-сёе зроблена і для вяртання спадчыны таленавітага вучонага і пісьменніка. У Мінску і ў польскім Ольштыне амаль у адначассі выдадзены беларускі пераклад «Пана Тадэвуша», зроблены Тарашкевічам у 1931 г. у Гродзенскай турме. Падрыхтавана, знаходзіцца на стадыі другой карэктуры непабляклае і праз гады публіцыстычнае слова Тарашкевіча. Беларускае савецкае моваазнаўства вуснамі сваіх аўтарытэтных прадстаўнікоў пацвердзіла нязменна высокае месца аўтара першай «Беларускай граматыкі для школ» у лінгвістычным беларусазнаўстве. Праўда, на жаль, да гэтага часу застаюцца нявыдзейсненымі абяцанні, і не адных толькі мовазнаўцаў, перавыдаць першынца беларускай граматы — «Граматыку Тарашкевіча», як пабытавому звалася яна ў народзе. Але гэта, здаецца, таксама на парозе рэалізацыі. Зроблены першыя крокі да мемарыяльнага ўшанавання славутага суайчынніка. Установлены дзве мемарыяльныя дошкі ў мясцінах, звязаных з жыццём і працай Тарашкевіча. У Вільні, на былой Віленскай 12, дзе ў 20-я гады была сядзіба ТБШ і месціліся рэдакцыі беларускіх газет, жыў адзін час Тарашкевіч, і ў Радашковічах. Пра Радашковічы гутарка і наш клопат асобныя. Справа ў тым, што з домам Сніткаў, з якога паходзіла жонка Б. Тарашкевіча Вера Андрэеўна, звязаны ці не найважнейшы перыяд у жыцці і дзейнасці Тарашкевіча. Тут ён стала бываў, месяцамі жыў на працягу 1923—1930 г... Дом Сніткаў, дом старога беларускага археографа і гісторыка, мясціна, якая так шмат значыла ў жыцці Тарашкевіча, пасля таго, як з яго выбралася мясцовая бальніца, аказаўся без нагляду. Прадстаўнікі радашковіцкай інтэлігенцыі, падтрыманыя пасялковай адміністрацыяй, сталі думаць пра дом як музей Тарашкевіча. Было прынята і адпаведнае рашэнне. Каб засцерагчы будынак ад паломак, расцягвання, па ініцыятыве Веры Андрэеўны як фактычнай спадкаемцы дома тагачасны старшыня пасялковага Савета Пустаход часова пасяліў у ім тры сям'і. Адна з іх праз нейкі час перабралася некуды на сталае месца жыхарства. Гатова перасяліцца на запэўненую ўладай ёй кватэру і другая сям'я, што ўцякла ад наступстваў чарнобыльскай катастрофы са Слаўгарадчыны. А вось мясцовая жыхарка, у якой, дарэчы, у самім пасёлку ёсць напалам з мужам свой дом, Т. І. Рабушка, адвакат па прафесіі, загаспадарыла ў мяркуемым музеі Тарашкевіча грунтоўна, на свой лад. Абабіла ганак, высекла кусты і дрэўцы, мемарыяльную дошку перанесла ў другое месца, загадавала вялізную індычыную і трусіную гаспадарку. Дом музейнага прызначэння пазбаўляецца аўтэнтычнага асяроддзя, элементарна парушаецца яго экалогія. Пачынае хадзіць думка-чутка, што дом стары, аднаўляць яго нявыгадна, і музей Тарашкевіча лепш пабудаваць на новым месцы. Але ж такое рашэнне было б прамым парушэннем мемарыяльнасці, аўтэнтычнасці музейнага аб'екта. Дом трэба аднаўляць на яго адвечным месцы, каб там нават заставаўся адзін падмурак. Тым больш, што дом Сніткі — адзіны найбольш адпаведны і захаваны ў сваім прыжыццёвым для Тарашкевіча выглядзе. Тым больш, што ў роднай вёсцы Браніслава Тарашкевіча Мацюлішках, на Віленшчыне, на сядзібе бацькі вучонага, не засталося і знаку ад колішніх будынкаў. Да таго ж малая радзіма нашага вялікага земляка сёння ў межах Літоўскай рэспублікі.

Так што мемарыяльнаму музею Браніслава Тарашкевіча быць толькі ў Радашковічах. Тут ёсць глеба, грунт сталай беларускай культурнай традыцыі. Пасялковыя ўлады разумеюць сутнасць праблемы адкрыцця музея Тарашкевіча. Гатовы ўзяць на сябе долю клопату, звязанага з яго рэалізацыяй. Слова за Міністэрствам культуры, за грамадскасцю.

**А. МАЛЬДЗІС, старшыня гісторыка-мемарыяльнай камісіі СП БССР, Г. КІСЯЛЁЎ, намеснік старшыні, А. ЛІС, сакратар камісіі, Г. КАХАНОЎСКІ, старшыня рады Таварыства краязнаўства Беларусі.**



**«ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ**

## Мяжа міру і супрацоўніцтва

На літоўска-беларускім сумежжы (Ашмяны — Меднікі) па ініцыятыве Літоўскага фонду культуры адбылася сустрэча з прадстаўнікамі Гродзенскага абласнога аддзялення Беларускага фонду культуры. Мэтай сустрэчы было пашырэнне культурных сувязей паміж Літвой і Беларуссю.

З літоўскага боку дэлегацыю ўзначаліў вядомы архітэктар-рэстаўратар Н. Кіткаўскас, з беларускага — Н. Трухановіч, намеснік старшыні праўлення Гродзенскага абласнога аддзялення фонду культуры.

У сустрэчы з літоўскага боку прымаў удзел Клуб пры фондзе культуры Літвы «Раскіпа», з беларускага боку — гродзенскі фальклорна-мастацкі гурт «Гарадніца» і гісторыка-культурнае таварыства «Паходня».

На сустрэчы дамовіліся аб працягу і замацаванні культурных сувязей. Наступная сустрэча адбудзецца сёлета ў Гродне.

На заканчэнне адбылося сумеснае вандраванне ў Меднінскі замак.

**Ян САВІЦКІ.**

## Памяць аб Цётцы

Яшчэ 15 снежня 1982 года ў Астрынскай сярэдняй школе Шчучынскага раёна адкрыты музей славутай зямлячкі Цёткі, Алаізы Пашкевіч. У ім сабраны экспанаты, якія расказваюць аб жыцці і дзейнасці паэтэсы - рэвалюцыянеркі.

Экспазіцыя папаўняецца новымі матэрыяламі. Шмат увагі рабоце музея ўдзяляе яго кіраўнік настаўніца рускай мовы і літаратуры Галіна Багумілаўна Пугач. Старшыня савета музея Ігар Капіца (ён ужо выпускнік школы) за актыўнасць быў прэміяваны пуцёўкай ва Усесаюзны піянерскі лагер «Акіян». Падтрымліваюць школьнікі цесныя кантакты з Літаратурным музеем Я. Купалы ў Мінску. У іх з'явілася задума наведаць бальніцу ў Нова-Вілейцы, дзе працавала Цётка.

Гасцямі музея былі пісьменнікі Валянціна Коўтун, Аляксей Карпюк. І госці, і мясцовыя жыхары кожны раз пасля наведвання музея не забываюць пакласці кветкі да помніка Цёткі.

**В. ХАДАРЭНКА.**
Шчучынскі раён.

## *Ва Ушачах — свята*

Па традыцыі прайшло свята беларускага мастацтва ва Ушачах. Адкрыў яго першы сакратар райкома партыі І. Баруноў.

Прысутныя цёпла сустрэлі Р. Барадуліна, Н. Гальпяровіча, якія гаварылі аб нацыянальным Адраджэнні, чыталі свае творы. На свяце выступілі таксама былы настаўнік К. Швядко, які спрабуе творчыя сілы ў галіне сатыры, сябра літаратурнага аб'яднання пры раённай газеце У. Хвашчэўскі, настаўніца Іллюшынскай няпоўнай школы І. Казачонак, работніца Цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Е. Лось Г. Таран.

Адбыўся вялікі канцэрт мастацкай самадзейнасці, працавала выстаўка твораў народных умельцаў.

**Г. ВАРАТЫНСКАЯ.**




Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ БССР.

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жанна ЛАШКЕВІЧ—33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ—33-24-62; аддзел народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65; Юрась ЗАЛОСКА — 33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт: Уладзімір КРУК — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.

Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ.

Рэдакцыйная калегія:

Заір АЗГУР, Алесь АСІПЕНКА, Анатоль БУТЭВІЧ, Анатоль ВЯРЦІНСКІ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (нам. галоўнага рэдактара), Уладзімір ГІЛЕП, Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ, Лілія ДАВІДОВІЧ, Міхась ДРЫНЕЎСКІ, Алесь ЖУК, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Ігар ЛУЧАНОК, Уладзімір НЯКЛЯЕЎ, Ніўчыпар ПАШКЕВІЧ, Барыс САЧАНКА, Юрась СВІРКА, Рычард СМОЛЬСКІ, Уладзімір СТАЛЬМАШОНАК, Віктар ТУРАЎ.

Адказны сакратар Барыс ПЯТРОВІЧ.

Індэкс 63856

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12